№ 11 (800) 20 сакавіка 2013

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва №800

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




## БНР: трэба было менш сварыцца

Гутарка з гісторыкам **Даротай Міхалюк**, аўтаркай кнігі «Беларуская Народная Рэспубліка 1918—1920. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці».

«Усё пачыналася з простай цікавасці, з чытання двухтомных «Архіваў БНР», выдадзеных у Празе Сяргеем Шупам, — расказвае пані Дарота. — Гэта сенсацыйная кніга! Яна мяне проста захапіла. З тых дакументаў паўставалі настолькі яскравыя вобразы стваральнікаў БНР: гэта былі прадстаўнікі маладога пакалення — імпэтнага, ідэалістычнага. Я зацікавілася — як жа ўсё адбывалася з БНР? Пасля было чытанне апублікаваных беларускімі гісторыкамі матэрыялаў і ўрэшце — гэты дактарат».

Кніга Дароты Міхалюк — найгрунтоўнейшае даследаванне, прысвечанае БНР. Яна выйшла ў 2010 па-польску. Яе пераклалі ўжо на беларускую мову, але яна яшчэ чакае публікацыі. 600-старонкавая манаграфія «Беларуская Народная Рэспубліка 1918—1920. Ля вытокаў беларускай дзяржаўнасці» была адначасова доктарскай дысертацыяй спн.Міхалюк.

Беларускае прозвішча аўтаркі невыпадковае: яе род паходзіць з Падляшша, але лінія дзеда з боку маці — з Пружаншчыны, дзяды воляй лёсу ў 1944 апынуліся па заходні бок новай мяжы.

### Спазніліся на 22 дні

«Беларусы мелі надзвычай малое поле для манеўраў», — піша даследчыца, звяртаючы ўвагу на складаныя ўмовы, у якіх была абвешчаная незалежнасць. Можна сказаць, што беларусы спазніліся на 22 дні: пасля нямецка-расейскага замірэння ў Брэсце немцы пагадзіліся з бальшавікамі не прызнаваць дзяржаўных утварэнняў, якія паўстануць на тэрыторыі былой Расійскай імперыі пасля 3 сакавіка 1918.

**Працяг на старонцы 7.**

**Стыхія**

### І снег і грэх

15 сакавіка на Беларусь абрынуўся снегапад, роўнага якому не было ў гісторыі. **Старонка 9.**



**Навука**

### Касмічнае смецце

Дробныя прадметы, што запаўняюць калязямную арбіту, могуць стаць прычынай трагедыі. **Старонка 11.**



**Аўто**

### Пачым новыя машыны?

Найменш каштуюць аўто, сабраныя ў Расіі і Узбекістане. **Старонка 6.**



**Рэлігія**

### Шэсць фактаў пра Папу Францішка

Папа Францішак уражвае свет сваёй надзвычайнай простасцю. **Старонка 4.**



### Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Дзень Волі — 24 сакавіка, ад Акадэміі навук

**Сцягамі і сімволікай можна будзе карыстацца.**




На 95-ыя ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР асноўным святочным мерапрыемствам стане шэсце і мітынг, якія адбудуцца ў нядзелю 24 сакавіка. Пачатак збору ўдзельнікаў запланаваны а 12:00 на пляцоўцы ля кінатэатра «Кастрычнік».

Прадстаўнікі аргкамітэта абвергли звесткі аб забароне выкарыстання нацыянальнай сімволікі падчас мітынгу.

«Пасля кансультацыі з юрыстамі мы хочам заявіць, што не існуе ніякай забароны на выкарыстанне нацыянальнай сімволікі, перадусім бел-чырвона-белых сцягоў ці іншых элементаў аздаблення ў нацыянальных колерах, якія ствараюць святочны настрой. Таму мы ад імя аргкамітэта заклікаем карыстацца нацыянальнай сімволікай», — заявіў намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

## Іншая пляцоўка для збору

Арганізатары нагадалі, што Мінгарвыканкам змяніў пляцоўку для збору ўдзельнікаў шэсця: спачатку планавалася рабіць гэта ля ўваходу ў Батанічны сад. Але гэтае месца змянілі на пляцоўку перад кінатэатрам «Кастрычнік».

## «Скінуцца» на міліцыю і палітвязняў

Яшчэ арганізатары прапанавалі ўсім мітынгоўцам паўдзельнічаць у аплаце паслуг камунальных службаў.

«Пры выдачы дазволу на мерапрыемства арганізатары абавязаны аплаціць працу медыкаў, міліцыі, МНС, нават службаў азелянення і ўборкі тэрыторыі. Сумы вызначаць вялікія», — сказаў Губарэвіч. Для збору сродкаў будзе падрыхтавана спецыяльная скрыня.

«Скінуцца» падчас акцыі можна будзе не толькі на камунальныя службы, але і на падтрымку палітвязняў і іх сем'яў.

## Правакацый не плануецца

Палітыкі лічаць, што правакацый быць не павінна. Арганізатары будуць сачыць за правядзеннем мерапрыемства сваімі сіламі.

Што тычыцца мітынгу ў Парку дружбы народаў, арганізатары не сталі раскрываць планы.

## «Галоўнае — падняцца з канапы»

«Мяркуючы па леташніх акцыях, прыйдзе некалькі тысячаў чалавек», — заявіў Віктар Івашкевіч.

«У сацыяльных сетках вялізная колькасць змагароў, якія даюць парады. Тут трэба даць параду сабе, падняць сваё цела з канапы і перанесці яго ў той пункт, дзе будуць астатнія людзі», — зауважыў лідар АГП Анатоль Лябедзька.

## Рэгіёнам адмовілі

Усе асноўныя мерапрыемствы па святкаванні Дня Волі адбудуцца ў Мінску. Аднак рэгіёны засталіся за бортам.

«У Віцебску, Слоніме, Гродне, Магілёве падаваліся заяўкі на правядзенне мітынгаў, але ўсім аргкамітэтам было адмоўлена», — сказаў лідар БНФ Аляксей Янукевіч.

**Кірыла Хілько**

### Што яшчэ?

22 сакавіка — адкрыццё выставы мастацкай суполкі «Пагоня» (управа БНФ, пачатак а 16:00).

23 сакавіка — навуковая канферэнцыя, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму і паўстанню 1863—1864 гг. (управа БНФ, пачатак а 11:00).

25 сакавіка — ускладанне кветак да помнікаў Янку Купалу, Якубу Коласу і Максіму Багдановічу (пачатак, а 11:00), а затым — выніковая канферэнцыя (управа БНФ, пачатак а 15:00).



**Падарунак на Дзень Волі: мядзведзі-дэсантнікі**

Робіць такія мілыя магніты на лядоўню маладая дызайнерка з Гродна Яна Марчук. Сімпатычныя і акуратныя мядзведзі пад бел-чырвона-белымі парасонамі вырабляюцца з пластыку ды расфарбоўваюцца акрылавымі фарбамі. Больш інфармацыі пра іх — праз мэйл jana.marcuk@gmail.com.

# Міліцыя шукае ахвяраў педафіла

1 сакавіка ў Мінску супрацоўнікамі крымінальнага вышуку за дзеянні, прадугледжаныя ч. 3 арт. 167 Крымінальнага кодэкса (гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару, учыненыя ў дачыненні да заведама малалетняга), затрыманы 38-гадовы непрацуючы С., жыхар Гомеля.

Мужчына абгрунтавана падазраецца ў здзяйсненні як мінімум трох гвалтоўных дзеянняў сэксуальнага характару ў дачыненні да малалетніх на тэрыторыі Гомельскай вобласці.

Усе выпадкі сэксуальнага гвалту адбыліся з ліпеня па снежань 2011.

Злачынца заваблiваў на будаваныя аб'екты або заходзіў у пад'езды, дзе, скарыстаўшыся даверам дзяцей, пад рознымі падставамі здзяйсняў у дачыненні да іх дзеянні сэксуальнага характару.

Па наяўнай інфармацыі, затрыманы мог здзяйсняць аналагічныя дзеянні ў дачыненні да малалетніх дзяўчынак 8–10 гадоў на тэрыторыі Мінска і ў іншых рэгіёнах Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з заканадаўствам, за такія дзеянні прадугледжваецца пазбаўленне волі на тэрмін ад 8 да 15 гадоў.

Калі вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй па гэтай справе або маеце прэтэнзіі да адлюстраванага на фатаграфіі чалавека, паведаміце аб гэтым па тэлефонах: (0232) 70-40-28 або 102. Канфідэнцыяльнасць гарантуецца.





## Сцісла

### Невядомая фірма займалася кантрабандай беларускага дызеля ў Чэхію

Канфіскаванае чэшскімі мытнікамі беларускае дызпаліва прададзена на аўкцыёне за 21,3 млн крон (1 мільён 110 тысяч даляраў).

### Замежная кампанія аднаўляе стары бровар

Замежная кампанія «Тракцэнтр «Азярцо» вырашыла інвеставаць у рэстаўрацыю з рэканструкцыяй будынка бровара на Вілейшчыне, які адносіўся да былой сядзібы «Двор Стайкі».

### Яўдаха сплаціў штраф

Штраф складаў 6,5 тысячы даляраў. На просьбу аб дапамозе ў сплаце адгукнулася дзесяці 80 чалавек. Асудзілі Яўдаху за распаўсюд беларускамоўных кніжак.

### Майкі брэсцкага «Дынама» па-беларуску

Дырэктар клуба Мікалай Харашун паведаміў, што ў гэтым чэмпіянаце прозвішчы футбалістаў «Дынама» на майках будуць пісацца па-беларуску. Апошнія гады белмоўных надпісаў не было ні ў каго. Раней у жодзінскага «Тарпеда».

### Дапамога па беспрацоўі — $16,6

Памер дапамогі па беспрацоўі ў лютым 2013 года склаў 143,5 тыс. рублёў, ці 15,1% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, паведамляе Белстат.

### У цэнтр Парыжа вернуцца жрыцы кахання

Міністр па правах жанчын Францыі Наджат Вало-Белькасэм абвясціла пра адмену дзесяцігадовага закона па барацьбе з прастытуцыяй і заявіла, што новыя меры зробяць жыццё і працу прастытутак больш бяспечнымі і лёгкімі.

**СМ**

## Рэкамендуем

### «Трэба вярнуць ва ўжытак старыя беларускія імёны, якія нас так вылучалі»

Пакуль народ мае свае імёны, ён непераможны! **Чытайце на nn.by.**

## Самае чытанае на nn.by за 13 — 19 сакавіка 2013

1 Шторм: выезды з Мінска заблакаваны, аварыі, заторы на трасах — анлайн

2 Трохмясцовыя купэ ў цягніках замест чатырохмясцовых: катастрофа

3 БТ: Амерыканскія дзеці з галадухі ядуць пацукоў

4 Ахмадзінежада крытыкуюць за паводзіны на пахаванні Чавэса

5 Сведка стральбы ў Мазыры: У міліцыянтаў не было іншых варыянтаў

6 Ахлабысцін амаль суткі прастаяў у заторы пад Мар'інай Горкай

7 На пятніцу прагназуюць анамальны снегапад

8 Сем фактаў пра Папу Францішка — езуіт, сын эмігранта, футбольны заўзятар

9 Астранаўт сфоткаў Мінск з космасу

10 Хто будзе наступным Папам

# Што Лукашэнка шукае ў Сінгапуры

Візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Інданэзію і Сінгапур — адзін з самых доўгіх за ягонае прэзідэнцтва. Што ён шукае цэлы тыдзень на другім канцы свету?

Абвешчаныя даты візіту Аляксандра Лукашэнкі ў Інданэзію — ад 17 да 20 сакавіка. Пры гэтым дзяржаўнае ТВ не паказала, як кіраўнік дзяржавы вяртаецца ў Беларусь пасля сустрэчы з Уладзімірам Пуціным. Яна, нагадаем, адбылася ў Пецярбурзе 15 сакавіка. Прыляцець у Мінск у той дзень было сапраўды нерэальна. Аэрапорт «Мінск-2» быў закрыты да раніцы 16 сакавіка ў сувязі з нечуваным штормам, а даехаць з іншых аэрапортаў у Мінск было складана праз заносы на дарогах, якія ўдалося разгрэбсці толькі пад абед 16-га. Магчыма, Лукашэнка паляцеў у Інданэзію адразу з Піцера. На гэта ўказвае і той факт, што кіраўнік дзяржавы ніяк асабіста не пакіраваў ліквідацыяй наступстваў стыхіі, не звярнуўся да людзей. Відаць, ён заставаўся недзе па-за краінай. Застаюцца пытанні, дзе і чаму, а таксама пытанне, чаму таго не прызнаць.

Што можна рабіць у Інданэзіі столькі дзён? Нават візіт у Каракас доўжыўся крыху менш. Між тым Інданэзія не была прывілеяваным партнёрам Беларусі і нашы адносіны толькі пачынаюць развівацца. Інданэзія — гэта 4-я ў свеце па колькасці насельніцтва дзяржава, аднак у эканамічным плане — далёка не лідар. Яна можа быць патэнцыйным рынкам для беларускіх угнаенняў, сельгастэхнікі ды ўзбраенняў. Гэта таксама папулярны турыстычны кірунак (Балі), але апошняе можа дазволіць сабе абсалютная меншасць беларусаў.

Інданэзія не належыць да ліку «гісторый поспеху». Навучыцца ў Інданэзіі мала чаго можна, хіба што адпачыць.

Зусім іншая справа — Сінгапур, візіт у які запланаваны на 20—22 сакавіка.

З апорай на ЗША і Брытанію гэты населены пераважна кітайцамі астравок за некалькі дзесяцігоддзяў стаў адной з найбагацейшых дзяржаваў. Прычым — Лукашэнка тут можа бачыць узор для сябе — Сінгапурам 31 год кіраваў прэм'ер-міністр Лі Куан Ю. Нават пасля свайго сыходу ў адстаўку Лі Куан Ю захаваў пасаду міністра-ментара, а краінай яшчэ пэўны час кіраваў ягоны сын. Гэта аўтарытарная краіна, якая, аднак, вельмі жорстка трымаецца вызначаных сабе прававых нормаў. Для бізнэсу — гэта адна з самых спрыяльных тэрыторый.

Варта адзначыць, што Лі Куан Ю выкарыстаў сваю амаль неабмежаваную ўладу не для асабістага ўзбагачэння, а для замацавання культуры і парадку. Так, для чысціні тратуараў у Сінгапуры забаранілі жуйку. За плявок сабе пад ногі можна атрымаць да 1000 даляраў штрафу. Калі сядзеш за руль выпіўшы, можна загрымець у турму на 10 гадоў. За вандалізм, напрыклад, за надпіс у ліфце, цябе законным чынам адлупцуюць кіямі. Метады трохі нагадваюць тыя, якія практыкаваліся для прывучвання да парадку ў Польшчы пры Пілсудскім.

Не маючы прыродных рэсурсаў, Сінгапур зрабіў стаўку на замежныя інвестыцыі, асабліва на высокатэхналагічную вытворчасць. Для гэтага Лі Куан Ю расправіўся з карупцыяй: даў чыноўнікам высокія заробкі, а суддзям — проста астранамічныя, каб не спакушаліся на хабар.

Гэта вельмі спадабалася амерыканскім карпарацыям, якія і прынеслі ў Сінгапур перадавыя тэхналогіі. Вось з такім вопытам мог азнаёміцца ў Азіі кіраўнік Беларусі.

Але ўсё гэта лірыка, а на бягучую палітычную сітуацыю ўплыў маюць вынікі беларуска-расійскіх перамоваў у Піцеры. І тое, што Аляксандр Лукашэнка па сканчэнні іх не з'явіўся перад тэлекамерамі, было красамоўна. Беларусь ізноў перажывае дэфіцыт грошай. Мінск прасіў у Масквы крэдыт памерам 2 мільярды даляраў. Пакуль згоды на яго няма. І, хоць Расія яшчэ на квартал наперад забяспечыць беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы дастатковым аб'ёмам таннай сыравіны, Мінск, здаецца, вымушаны актыўна шукаць запасныя аэрадромы. Прынамсі, у інтэрв'ю, якое Аляксандр Лукашэнка даў каналу Russia Today, ён хваліў Злучаныя Штаты за тое, што яны праз МВФ выручылі Беларусь грашыма ў 2009—2010 гадах і наракаў на тое, што Чавэс тады нашу краіну не пракрэдытаваў.

**Мікола Бугай, Кірыла Хілько**



Лукашэнка ў Джакарце. AFP

**Цікавыя факты**

**Бахаса Інданэзія**

Дзяржаўная мова ў Інданэзіі была створана штучна пасля здабыцця краінай незалежнасці. Рэч у тым, што карэнныя жыхары размаўлялі на сотнях розных гаворак, а захоўваць мову каланіяльнай метраполіі нацыяналісты-заснавальнікі Інданэзіі лічылі немэтазгодным. Праз два пакаленні на «бахаса інданэзія», інданэзійскай мове, пачалі размаўляць і ў сем'ях, а вось вялікай літаратуры на мове, што нарадзіліася як школьна-канцылярская, пакуль не створана.

**Не змыў? Плаці!**

У Сінгапуры аштрафаваць могуць і за тое, што ты не змыў за сабой у туалеце. Так прывучаюць людзей да чысціні.

## Замест Меркурыя — гіганцкі флагшток

Будзе плошчы **дзяржаўнага сцяга**.

Мінск і Беларусь страцілі сваю адзіную статую старажытнарымскага бога-апекуна гандлю Меркурыя. Статую, а разам з ёю і калону з гадзіннікам ля выставачнага комплекса «Белэкспа» дэмантавалі.

«Змяніўся статус аб'екта. Прадугледжана пераўтварэнне гэтай пляцоўкі ў Плошчу дзяржаўнага сцяга», — расказала «НН» Ганна Аксёнава, галоўная архітэктарка праекта «Рэканструкцыя нацыянальнага выставачнага цэнтра «Белэкспа». Плошча дзяржаўнага сцяга РБ».

Цяпер на будучай Плошчы дзяржаўнага сцяга сканчаюцца працы па мантажы велічэзнага белага флагштока. Канструкцыя нагадвае аналагічную ў Ашхабадзе эпохі Туркменбашы.

Цяпер будынак «Белэкспа» рэканструююць, і хутка ён стане Домам прыёмаў, часткай большага адміністрацыйнага комплекса, які ў народзе называюць новай рэзідэнцыяй Лукашэнкі.

Вышыня флагштока складае 70 метраў, паведамілі «НН» ва УП «Мінскпраект». Дэмантаваная калона з Меркурыем цяпер захоўваецца на складзе «Белэкспа».

Флагшток ля меркаванай новай прэзідэнтскай рэзідэнцыі на праспекце Пераможцаў выглядае даволі сціплым на фоне краін-сяброваў Беларусі. Так, другі па вышыні ў свеце флагшток (162 метры) усталяваны ў Баку. Самы ж высокі, 165-метровы флагшток стаіць у Душанбэ. Ён каштаваў бюджэту 3,5 мільёны даляраў.

Свае гіганцкія флагштокі ёсць і ў Паўночнай Карэі (160 метраў), Іарданіі (130 метраў), Абу-Дабі (122 метры) і 100-метровы флагшток у Куала-Лумпуры ў Малайзіі.

**Кірыла Хілько**



Сяргей Гудзілін




Сайт generation.by надрукаваў звесткі пра беларусаў, якія маюць від на жыхарства ў Еўрасаюзе і ЗША. У 2011 такіх набралася аж 116 тысяч. А яшчэ не ўлічаная вялізная колькасць беларусаў, якія атрымалі замежнае грамадзянства, і тых, хто жыве нелегальна. Няма дакладных звестак пра беларусаў у Расіі, краінах Азіі, Афрыкі і Паўднёвай Амерыкі.



## Сцісла

**У Лукашэнкі новы прэс-сакратар**

Ім стаў Сяргей Пелюшкевіч. Ён скончыў журфак БДУ. Працаваў на Беларускім радыё. Ранейшы прэс-сакратар Павел Лёгкі прызначаны супрацоўнікам пасольства ў Маскве.

**Генпракуратура Швецыі пачала расследаваць «плюшавы дэсант»**

Раней у бюро пракурора Стакгольма заяўлялі, што шведская юстыцыя не мае наўпростага дачынення да справы аб «плюшавым дэсанце», паколькі інцыдэнт адбыўся за мяжой.

**Прыехаў спецдакладчык Еўрапарламента**

Мэта візіту літоўца Юстаса Палецкіса — падрыхтоўка даклада аб стане спраў у адносінах паміж ЕС і Беларуссю. Будуць сустрэчы з дыпламатамі, праваабаронцамі, палітыкамі.

**Разведчык Захарчанка атрымаў прытулак у Літве**

Сцяпан Захарчанка дэзерціраваў з беларускага войска напрыканцы лета. Ён патлумачыў свой учынак здзекамі. Першапачаткова Захарчанку не далі прытулак, але з другой спробы змянілі рашэнне.

**У Зімбабвэ змянілі Канстытуцыю**

Яна ўпершыню ў гісторыі абмяжоўвае прэзідэнцкую ўладу і пашырае паўнамоцтвы парламента. Тым не менш, па новых правілах прэзідэнт Мугабэ зможа пераабірацца яшчэ двойчы: у 2023, калі скончыцца яго апошні магчымы тэрмін, яму споўніцца 99 гадоў.

**ЗП**

# Шэсць фактаў пра Папу Францішка

**Езуіт**, сын эмігранта, футбольны заўзятар.

Новы Папа ўражвае свет сваёй простасцю. Ён цураецца любога багацця.



**Папа Францішак уражвае свет сваёй надзвычайнай простасцю**

Яшчэ ў бытнасць кардыналам у Буэнас-Айрэсе ён ездзіў у царкву грамадскім транспартам, а не лімузінам. Пасля абрання Папам ён адмовіўся надзець дарагую гарнастаевую мантыю, якую традыцыйна насілі ягоныя папярэднікі. Вяртаўся з канклава не папамабілем, а ў адным мікрааўтобусе з кардыналамі. Прычым сам заехаў у гатэль, дзе спыніўся ў Рыме, каб расплаціцца за пастой і забраць валізкі.

Свет абляцела таксама фота вельмі простых, трохі зношаных ботаў на нагах у новага Папы. Карацей, жывая процілегласць многім кіраўнікам дзяржаваў і цэркваў, што невядома за чые грошы набываюць пафасныя гадзіннікі.

## 1. Аргенцінскі італьянец

Букмекеры памыліліся. Каго толькі ні называлі сярод фаварытаў заняць Святы Пасад — і італьянцаў, і амерыканцаў, ганца, аўстрыйца, бразільскага немца. Урэшце ж новым Папам упершыню стаў прадстаўнік Паўднёвай Амерыкі. Хорхе Марыа Берголіа прыйшоў у свет у 1936 у Буэнас-Айрэсе ў італьянскай сям'і. Яго бацька быў рабочым на чыгунцы. Хорхе — наймаладзейшы з пецярых дзяцей у сям'і. Апошнія 15 гадоў быў арцыбіскупам Буэнас-Айрэса і прымасам (найвышэйшай духоўнай асобай) Аргенціны.

Выбар паўднёваамерыканца зусім не назавеш выпадковым. Менавіта ў гэтым рэгіёне колькасць каталікоў сярод насельніцтва найбольшая.

## 2. Езуіт

У 1958 Берголіа ўступіў у манаскі ордэн езуітаў. Найчасцей гэты ордэн асацыююць з контррэфармацыяй — змаганнем за захаванне каталіцкай веры. Езуіты са сваім вучэннем ехалі па ўсім свеце — у Афрыку, у Кітай. Шмат іх было і ў Беларусі. Дзякуючы ордэну паўставалі навучальныя ўстановы, найлепшыя для таго часу. Ордэн лічыўся адным з найбольш інтэлектуальна моцных. За 450-гадовую гісторыю існавання езуіты далі Касцёлу 44 святых і 34 кардыналаў. Але Папаў-езуітаў яшчэ не было ніколі. Сёння езуіты не настолькі магутныя, як некалі. У Беларусі яны присутнічаюць, але не самыя заўважныя.

## 3. Сціплы

Хорхе Берголіа вельмі сціплы чалавек у быце. Адмовіўся ад шыкоўнай рэзідэнцыі, жыў у маленькай кватэрцы, сам гатаваў сабе ежу, ездзіў грамадскім транспартам. Калі лётаў у Рым, то толькі ў эканом-класе. У Берголіа толькі адно лёгкае, другое страціў яшчэ дзіцем падчас рэспіраторнага захворвання.

## 4. Абаронца сям'і

Берголіа лічыўся не самым жорсткім кардыналам. Часта яго нават заносяць у «ліберальны лагер». Ліберальны, відома, у каталіцкім усприманні. Але найбольш правільна яго назваць усё ж «умераным». Чалавекам, які можа задаволіць абодва бакі. Берголіа заклікаў духавенства і паству выступіць супраць абортаў і эўтаназіі. Ён рашуча выступае супраць заканадаўства, уведзенага ў 2010 урадам Аргенціны, якое дазваляе аднаполыя шлюбы.

## 5. Новае імя

Гэта першы Папа-лацінаамерыканец, першы — Папа-езуіт, першы — Папа з імем Францыск (Францішак). Такое імя найперш звязваюць з Францішкам з Асізі. Той быў вядомы сваім аскетычным ладам жыцця. Ён быў заснавальнікам ордэна францысканцаў. Таму многія мяркуюць, што Папа Францыск найперш будзе змагацца з беднасцю, супраць няроўнасці. У сваёй першай прамове ён пацвердзіў такія чаканні.



**На працу кардынал Берголіа заўсёды дабіраўся грамадскім транспартам, адмаўляўся жыць у рэзідэнцыі кардынала.**

## 6. «Сан-Ларэнца» і Дастаеўскі

Любімымі пісьменнікамі Берголіа называе свайго суайчынніка Хорхе Луіса Борхеса, а таксама класіка расійскай літаратуры Фёдара Дастаеўскага.

Новы Папа — вялікі аматар футбола. Цікава, што заўзее ён не за звышпапулярныя ў Аргенціне «Бока Хуніёрс» ці «Рывер Плэйт», а за клуб «Сан-Ларэнца». Ён імкнецца не прапусціць ніводнага матча любімай каманды, нават калі гульня праходзіць на выездзе. Цяпер гэта будзе зрабіць цяжэй.

Каманда «Сан-Ларэнца» названая ў гонар святога Лаўрэнція, а таксама каталіцкага святара Ларэнса Масы, які дапамагаў клубу. «Сан-Ларэнца» — дзесяціразовы чэмпіён Аргенціны.

**Зміцер Панкавец**

**Езуіты**

Афіцыйная назва — "Таварыства Ісуса". Відаць, ніводзін манаскі ордэн не выклікае такіх супярэчлівых эмоцый, як езуіты. Ордэн заснаваны ў 1534 Ігнацыем Лаёлам. Езуіты сыгралі вялікую ролю ў контррэфармацыі, актыўна займаліся адукацыяй, навукай, місіянерскай дзейнасцю. Сёння ў свеце 18 тысяч езуітаў.

Езуітаў у Вялікае Княства Літоўскае запрасіў Віленскі біскуп Валяр'ян Пратасевіч у 1569. Праз год быў заснаваны Віленскі езуіцкі калегіум. У 1579 калегіум быў павышаны да статуса ўніверсітэта. У 1581 быў адчынены калегіум у Полацку, у 1584 — у Нясвіжы. Да сярэдзіны XVII стагоддзя езуіты стварылі на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага шырокую сетку навучальных установаў і амаль поўнасцю засяродзілі ў сваіх руках сярэднюю і вышэйшую адукацыю. З езуіцкіх школаў выйшаў шэраг знакамітых вучоных, грамадскіх дзеячаў і пісьменнікаў.

У 1773 ордэн езуітаў быў фармальна скасаваны Папам Кліментам XIV.

**Тадэвуш Бжазоўскі**

Таварыства езуітаў было адноўленае ў 1814. І першым генералам ордэна стаў Тадэвуш Бжазоўскі — чалавек, непасрэдна звязаны з Беларуссю.

Ён вывучаў мовы, філасофію і прыродазнаўчыя навукі ў езуіцкіх школах у Слуцку і Нясвіжы, скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Быў настаўнікам у ваяводскай школе ў Мінску. У 1782 перасяліўся ў Полацк, дзе выкладаў у езуіцкім навіцыяце, займаўся перакладамі, стаў вядомы як прапаведнік. У выніку яго намаганняў у 1808 з Пінска ў Полацк былі перенесены парэшткі езуіта Андрэя Баболі, закатаванага казакамі.

**Казімір Жыліс**

У Беларусі сёння ёсць адзін святар-езуіт. Гэта 68-гадовы Казімір Жыліс. Капелан гродзенскай турмы, а таксама святар літоўскай супольнасці.

**Украінскі патрыярх Філарэт раскрытыкаваў Папу Францішка за адмову ад лімузіна**

«Я не ўхваляю такія саступкі, бо гэта праца напаказ… <…> Гоcпад як кажа: не выстаўляйце праведнасці вашай перад людзьмі і не паказвайце сваю сціпласць перад людзьмі, а будзьце сціплымі ўсярэдзіне, а не напаказ».

Сам Патрыярх Кіеўскі і ўсёй Русі-Украіны Філарэт перасоўваецца на «Мерсэдэсе» прадстаўнічага класа, які, па яго словах, яму падарылі бізнесмены.

«Мы будзем рады вітаць Вас на гасціннай беларускай зямлі, дзе адносіны паміж праваслаўнымі і каталікамі напоўнены духам узаемаразумення і супрацоўніцтва», — такія словы вітання накіраваў Францішку Аляксандр Лукашэнка.

**Трэба казаць Францішак, а не Францішак Першы**

«Ён стане Францішкам І пасля таго, як з'явіцца Францішак ІІ», — такое тлумачэнне далі ў Ватыкане.

Папа Францішак адрокся многіх атрыбутаў раскошы, якія былі ўласцівыя Ватыкану ў мінулым. На цырымонію інтранізацыі ён прыехаў не на бранiраваным папамабілі, а ў адкрытым джыпе. Ён часта спыняўся, каб павітаць людзей, а адзін раз нават выйшаў з машыны блаславіць ляжачага інваліда.

Сваю казань Папа прамовіў на італьянскай мове. Яна была прысвечана Святому Язэпу і паняццю, якое выражаецца ў ёмістым італьянскім слове «custodire» — захоўваць, ахоўваць, берагчы, дбаць, даглядаць — ва ўсіх ягоных значэннях: захоўваць царкву, ахоўваць прыроду, глядзець дзяцей і старых людзей, падтрымліваць самых слабых на гэтым свеце, тых, каму жывецца найцяжэй. Папа цытаваў Папу Яна Паўла ІІ і Святога Францішка з Асізі. «Улада — гэта служэнне, — нагадаў Францішак. — Служэнне бедным, слабым, хворым, зняволеным, укрыўджаным».

# Раёўка: смерць кардоннага фенікса

**Фабрыку зачынілі, цэлы пасёлак застаецца без працы.**


На кардоннай фабрыцы «Раёўка» цяпер працуюць адны вартаўнікі.

Ганна — трэцяе пакаленне сям'і, што працавала на фабрыцы.

Ад Мінска да вёскі Раёўка (Маладзечанскі раён) семдзесят хвілін электрычкай (да станцыі Уша), адтуль яшчэ 25 хвілін на аўтобусе. Ехаць трэба рана — аўтобус ходзіць двойчы ў дзень. Пабіты часам «ЛіАЗ» па заснежанай і слізкай дарозе за 5500 давозіць да прыпынку з выцвілым раскладам. За прыпынкам — гандлёвы дом; налева — школа.

Ранкам у Раёўцы пуста; адзінокі дворнік мяце дарожку. Тэлефаную Таццяне, адной з жанчын, якая даслала ліст у Рэдакцыю «НН». «Нам параілі звярнуцца ў вашу газету. Яе ж «наверсе» чытаюць?» Зварот у прэсу тут бачаць як апошні шанец дабіцца праўды і грошай — усе іншыя сродкі пакуль не спрацавалі. Неўзабаве падыходзяць і іншыя жанчыны.

### Аптымістычныя артыкулы

Раёўка — дастаткова вялікая вёска з насельніцтвам прыкладна ў 650 чалавек. Да «нулявых» яна была яшчэ і багатай. У вёсцы ад 1898 працавала кардонная фабрыка, вакол яе круцілася жыццё. «На фабрыцы працавалі ў чатыры змены, кругласутачна і без выхадных. І на Вялікдзень працавалі, і на іншыя святы. На заробкі не скардзіліся», — кажа Валянціна Давідовіч, якая аддала раёўскай фабрыцы 25 гадоў жыцця.

Але ў 2003 фабрыка збанкрутавала. «Была першая хваля мадэрнізацыі, прадалі лінію па пераапрацоўцы макулатуры. Таму і ляснула ўсё», — разам тлумачаць жанчыны.

Пра Раёўку ўжо пісалі «Рэспубліка», «СБ». Пісалі гадоў шэсць таму: пра банкруцтва, цяжкое жыццё без прадпрыемства, праблемы з ацяпленнем — цагляныя чатырохпавярховікі грэла фабрычная кацельня. Артыкулы ў дзяржгазетах заканчваліся аптымістычна: фабрыку выкупіў прыватнік, ВГУП «Белнацыяналсэрвіс». Новы дырэктар Алег Клюеў заявіў, што ў 2007 фабрыка стане самаакупнай, будзе выпрабляць гофракардон у 3 змены. А вёска выходзіць з анабіёзу. «Савецкай Беларусіі» ён нават расказаў, што не робіць рамонт у сваім кабінеце — перш за ўсё грошы трэба пусціць на развіццё бізнэсу.

### Іншая гісторыя

На жаль, эканамічны цуд не адбыўся. На фабрыцы засталося 36 супрацоўнікаў, а 26 верасня 2012 прадпрыемства «Белнацыяналсэрвіс» было ліквідавана. Пры гэтым ад ліпеня да снежня (калі ўсіх звольнілі ў сувязі з ліквідацыяй) людзі працавалі бясплатна. На сённяшні дзень заробкі так і не выплацілі.

— Сказалі, што ў банкруцтве вінаваты банкі: «загнулі» высокія працэнты, і ўладальнікі не змаглі іх выплаціць, — скардзяцца жанчыны.

— А як гэта да Лукашэнкі можна дабрацца? — пытаецца адна з іх.

— Дабярэшся да яго, — адказвае хор.

— Проста непамысна, што тут творыцца! І нікому да нас няма справы. Мы звярталіся да мясцовага дэпутата, у выканкам, у ахову працы... Нас ніхто не слухаў, ніхто не дапамагаў. Паўсюль даюць адпіскі, — кажа Валянціна.

Стаміўшыся карміцца голымі абяцаннямі, 20 жанчын падалі ў суд і запатрабавалі выплаціць ім заробак.

— Мы звярнуліся ў Маладзечанскі суд. Але там нас накіравалі ў мінскі. У сталіцы сказалі: «А чаго вы звяртаецеся не па месцы жыхарства?» Вось так нас адфутбольвалі, — расказвае Тамара Курэц.

Нарэшце калектыўную позву разгледзеў суд Кастрычніцкага раёна Мінска — па месцы рэгістрацыі «Белнацыяналсэрвіса». Патрабаванні істцоў былі часткова задаволены, і суд абавязаў спагнаць з прадпрыемства нявыплачаныя заробкі. Сумы, з улікам выхадной дапамогі і кампенсацый за нявыкарыстаны адпачынак, невялікія — у сярэднім па 7—11 мільёнаў на чалавека. Усяго каля 23 тысячаў даляраў на 20 жанчын. Аднак цягам трох месяцаў, а менавіта столькі доўжыцца ліквідацыя прадпрыемства, грошы не выплацілі.

— Мы толькі хочам, каб аддалі нашыя грошы. Нам шэсць месяцаў не плацілі, а мы ж працавалі як пчолкі.

### Асаблівасці раёўскай ліквідацыі

Раёўская фабрыка спыніла працу 29 снежня. Асноўную незадаволенасць былых супрацоўніц выклікаюць незразумелыя ім маніпуляцыі з фабрычнай маёмасцю. У чаканні ключа ад мясцовага клуба, жанчыны расказваюць, што кіраўніцтва мэтанакіравана вывозіць з фабрыкі ўсё, што можна вывезці. «Ужо тры месяцы, па дзве машыны ў дзень стабільна вывозяць. Пастаянна скандалы праз гэта», — адзначаюць былыя супрацоўніцы фабрыкі.

— Я працавала на прахадной, і яшчэ ў канцы лістапада — пачатку снежня яны пачалі вывозіць металалом, — кажа Ганна.

Жанчыны ўзгадваюць, што металаломам становяцца і не зусім зношаныя рэчы: металічныя шафы, радыятары ацяплення, разабраныя такарныя станкі, новыя цыстэрны для мазуты, што стаялі ў кацельні, само кацельнае абсталяванне, дзверы.

Ля нас спыняецца трактар з прычэпам. «Лёня, падыдзі, раскажы! Вывозяць што?» — крычаць трактарысту. Лёня падыходзіць, запальвае цыгарэту. «Возяць... Дык і я дапамагаю, калі папросяць што пацягаць. Столькі металалому вязуць! З трох-чатырох грузавікоў выплацілі б нам заробак, дык не мелі б мы праблем з гэтымі судамі!»

Лёня з'язджае, а для нас адчыняюць мясцовы клуб культуры і адпачынку. Рассеўшыся вакол стала, на якім ляжыць судовая пастанова, пацярпелыя прыводзяць яшчэ некалькі цікавых дэталяў: дэрыктар фабрыкі Алег Клюеў «пастаянна сядзіць на фабрыцы і загадаў нікога не пускаць на тэрыторыю, хоць яго ўжо даўно звольнілі». Таксама час ад часу на фабрыку завітвае Ігар Клюеў — генеральны дырэктар УП «Белнацыяналсэрвіс» і бацька дырэктара.

— Мінулым разам, калі фабрыку ліквідавалі, усё апячаталі як трэба. Цяпер не апячатвалі нічога — вывозь што хочаш, колькі хочаш! — расказваюць жанчыны. — Не чапаюць яны толькі падзакладнай маёмасці, банка баяцца. Астатняе ўсё вывезлі.

Аднак Валер Сотцаў, якога прызначылі ліквідатарам прадпрыемства, не бачыць у сітуацыі нічога анамальнага.

— Вывозяць нічыйны хлам, металалом. У мяне ёсць балансавы спіс маёмасці, і мяне хвалююць толькі зафіксаваныя ў ім найменні, у тым ліку 4,5 тоны металалому. Фабрычнай маёмасцю лічыцца ўсё, перададзенае Клюеву па вопісе пры набыцці. Але ж у раёўскай фабрыкі вялізная тэрыторыя, і за 100 гадоў там набраліся тоны смецця, якое юрыдычна нікому не належыць.

### Асаблівасці раёўскай вытворчасці

Калі ў Раёўку вярнулася праца, усе былі шчаслівыя, нават калі заробкі не дацягвалі да ўзроўню папярэдніх гадоў. Аднак падчас гутаркі высвятляюцца цікавыя асаблівасці вытворчасці на фабрыцы.

У 2006 годзе Ігар Клюеў заяўляў: «Набыў фабрыку, таму што вытворчасць гофракардону і ўпаковак — дастаткова прыбытковы бізнэс. Галоўнае — наладзіць на фабрыцы глыбокую перапрацоўку макулатуры». Калі верыць раёўцам, справа далей за абяцанні не пайшла.

— Купілі макулатурную лінію, нейкую ламачыну, спісаную за мяжой. За размытнёўку шалёныя грошы заплацілі. Казалі пастаянна: «Вось яшчэ 150 мільёнаў — і запусцім». Так яна і не працавала, — расказвае Валянціна. — Калі мы ў снежні ўжо збіраліся пісаць калектыўны пазоў, прыехаў генеральны дырэктар, «накінуўся» на нас. Казаў: «Я ўжо пазычыў грошы ў сяброў, каб вам заробкі выплаціць, але калі вы так ставіцеся, то і не будзе вам заробкаў», — дадае Валянціна.

### Голыя сцены

— Калі ўсё вывезуць, тады яе дакладна ніхто не купіць. Навошта яна каму патрэбна? Будынкі старыя, дах цячэ, галоўны корпус ад сырасці і холаду трэшчынамі пайшоў, — кажа Ганна і жанчыны ківаюць у згодзе.

Без фабрыкі ж нікому не патрэбна і сама вёска. Многія раёўцы пачалі піць. Дзіцячы садок амаль пусты, хоць раней у ім былі чатыры поўныя групы. Мясцовую школу таксама збіраюцца зачыніць, а вучняў вазіць у суседнія вёскі. Вада, па прызнанні Ганны Хруль, «што тая гарбата — запарваць не трэба».

Хто меў магчымасць — ужо з'ехаў. Маладзейшыя ўладкаваліся ў навакольныя саўгасы; з тузін мужчын — на вытворчасць керамікі ў Радашкавічах. На працу, калі спазніўся на адзіны ранішні аўтобус, дабіраюцца спадарожнымі аўтамабілямі. «На «Кераміцы» абяцалі пусціць службовы аўтобус, калі набярэцца 10 чалавек. Так і не пусцілі», — кажа Таццяна. Адзіны захад у вырашэнні транспартнага пытання — лёгкая карэкціроўка раскладу вячэрняга аўтобуса.

Больш за ўсіх пакутуюць жанчыны перадпенсійнага веку. Такія, як Валянціна, Ганна, Тамара. Іх не бяруць на працу, а да пенсіі — некалькі гадоў. «У каго муж працуе, каму дзеці дапамагаюць. Лета чакаем. Пойдуць ягады — будуць грошы, — дзеляцца яны. — Хай бы выплацілі нам нашыя заробкі хутчэй, і не было б бяды».

Да зваротнага рэйса застаецца некалькі гадзін, і я вырашаю «галасаваць» на трасе. Машын няшмат, і амаль усе едуць у бок Вілейкі. «Прапусціш аўтобус — і можна спакойна ісці дахаты спаць. Я неяк так палову дня чакала», — жартуе Валянціна, якая разам з Таццянай вырашыла праводзіць мяне. «А мне фабрыкі шкада. Тут многія на ёй усё жыццё працавалі. Ганна, напрыклад, у трэцім пакаленні. Я сама з Расіі, з Кастрамской вобласці. Мяне сюды па ўсесаюзным размеркаванні пасля тэхнікума накіравалі. А фабрыка працавала і ў вайну, і пасля вайны ўсімі навакольнымі вёскамі яе аднаўлялі, людзі па 10 кіламетраў кожны дзень сюды хадзілі. Сёння ж вайны няма, а такое адбываецца».

Праз 40 хвілін стаяння на сакавіцкім марозе і пасля некалькіх прапушчаных машын мяне ўсё ж падбірае іржавы «Фальксваген» і вязе ў Краснае.

**Кірыла Хілько, Раёўка — Мінск**

**P.S.**

Праз два дні пасля візіту карэспандэнта «НН» у вёску Раёўка ў Рэдакцыю патэлефанавала Валянціна Давідовіч і паведаміла, што металалом больш не вывозяць удзень. Машыны з тэрыторыі фабрыкі цяпер адпраўляюцца а 6-й раніцы.

# Пачым новыя машыны?

Найменш каштуюць аўто, **сабраныя ў Расіі і Узбекістане**.

З сярэдзіны красавіка беларускія чыноўнікі і дырэктары дзяржаўных прадпрыемстваў не змогуць набываць працоўныя аўтамабілі, даражэйшыя за 25 тысяч еўра. Усталяваная мяжа ўсё адно завысокая. Прадстаўнікам улады фактычна забаранілі толькі некаторыя ўседарожнікі са звышмагутным рухавіком, спартыўныя аўтамабілі, а таксама іміджавыя маркі накшталт «Поршэ» ды «Лексуса».

А якія новыя аўтамабілі самыя танныя? «Наша Ніва» вывучыла цэны ў беларускіх аўтасалонах.

Рэкардсмены — карэйскія аўто ўзбекскай зборкі. Гарадскі «Дэу Матыз», сабраны ў гэтай краіне, прадаецца ўсяго за $6700. Гэта мадэль нават без задняга дворніка і акустычных калонак. Праўда, рухавік у ім усяго 0,8 л. А вось расход немалы — 6,5—7,5 л на 100 км. За $8—9 тысяч можна ўзяць і «Матыз Бэст» з рухавіком 1 л.

Спаборнічаць з «узбекамі» могуць толькі расійскія «Лады». Нават маючы бюджэт $10 тысяч, можна абіраць фактычна любую машыну з мадэльнага шэрагу «Лады». Дылеры не мусяць сплачваць мыта, што ставіць расійскага вытворцу ў выйгрышныя ўмовы. Новая версія самай таннай мадэлі, «Самары», з'явіцца ў продажы ў гэтым месяцы. Яна будзе каштаваць $7740. Параўнальна немалы рухавік — 1,6 л — «кампенсуецца» сумнеўнай надзейнасцю аўтамабіля. Пералічваць недахопы ці перавагі «Самары» перад іншымі «Ладамі» было б недарэчна. Доля продажаў «Лады» прыватнікам мізэрная, а вось для арганізацыі пры наяўнасці малога бюджэту гэта прымальны варыянт. Нават самая дарагая «Лада» каштуе не больш за $12 700.

Базавая версія маленькай кітайскай «Чэры-А13» каштуе $11 360. Для старшыняў райвыканкамаў яе праходнасці будзе недастаткова, але для горада 1,5-літровага бензінавага рухавіка хопіць. Кандыцыянер ёсць нават у базавай мадэлі.

З машын еўрапейскай зборкі можна звярнуць увагу на румынскія «Дачы». Папулярную сярод таксістаў мадэль «Логан», а таксама больш прасторную «Сандэра» можна набыць за $12 900.

Ненашмат даражэйшы і малалітражны «Пежо-107». Ёсць і трох-, і пяцідзверныя мадэлі, за якія трэба заплаціць больш за $13 тысяч. Аўто мае адналітровы рухавік, затое і спажывае ўсяго 4—5,5 літра паліва на 100 км.

Ёсць на рынку і недарагія «Шкоды». Набыць можна «Фабію» ($14 000) і «Фабію Комбі» ($14 950), сабраныя ў Чэхіі. Гэта гарадскія малалітражкі, якія добра зарэкамендавалі сябе і доўгі час былі ў лідарах еўрапейскіх продажаў.

Цэны на «Фальксвагены» пачынаюцца ад $14 865 за бензінавы «Пола Седан» з рухавіком 1,6 л. Нездарма гэты аўтамабіль быў адным з самых папулярных у Беларусі летась. Новыя мадэлі «Фальксвагена Гольфа» каштуюць ад $20 тысяч, а «Фальксвагена Пасата» — ад $31 тысячы.

Самы танны «Форд» — двухдзверная «Фіеста» — прадаецца за $15 тысяч, а больш прадстаўнічы «Фокус-III» — за $18—25 тысяч.

Карэйская «Кіа Рыа» каштуе роўна $15 тысяч. Гэта мінімальная мадэль з рухавіком 1,5 л. Дарэчы, аўтамабіль збіраецца на заводзе пад Санкт-Пецярбургам.

Красовер «Кіа Спортыдж» прадаецца за $28—43 тысячы ў залежнасці ад мадыфікацыі і камплектацыі. Гэта адзінае дарагое аўто сярод лідараў леташняга спісу самых прадаваных машын у Беларусі (глядзі ўрэзку). Астатнія папулярныя мадэлі адносяцца да нізкага цанавога дыяпазону.

**Ягор Марціновіч**



**Kia Sportage**
**ад $28300**
**адзіная мадэль з даражэйшага дыяпазону, што ўваходзіць у лік самых прадаваных.**



**Volkswagen Polo Sedan**
**ад $14865**




**Škoda Fabia**
**ад $14 050**



**Лада Самара**
**ад $7740**



**Daewoo Matiz**
**ад $6700**

**Самыя папулярныя мадэлі ў Беларусі***

- Lada Priora — 1231
- Lada Niva — 871
- Volkswagen Polo Sedan — 856
- Dacia Logan — 759
- Dacia Sandero — 649
- Kia Rio — 562
- Škoda Octavia — 548
- Kia Sportage — 401
- Daewoo Matiz — 319
- Lada Samara — 301

*колькасць прададзеных аўто ў 2012 годзе

## Юрый Чыж уводзіць сына ў вялікі бізнэс

Сяргей **будзе прадстаўляць інтарэсы бацькі** на Мінскім заводзе пеністых він аў.

Прыклад «народнай прыватызацыі» Мінскага завода пеністых він аў будзе ўрокам для тых, хто вырашыць паўдзельнічаць у наступным распродажы нейкага дзяржаўнага прадпрыемства. Частка акцый у выніку засталася ў руках набліжанага да ўлады мільянера. Супрацоўнікі «Трайпла» скуплялі акцыі як фізічныя асобы (не болей за 999 у адныя рукі), а пасля прадалі іх Юрыю Чыжу. У яго руках ужо 12,5% акцый.

Гэта дазволіла бізнэсмэну высунуць у назіральную раду завода свайго прадстаўніка. Ім стаў старэйшы сын, Сяргей Чыж. Ягоная новая пасада не мае вялікай улады, але дазваляе пакрысе наладжваць кантакты з чыноўнікамі і бізнэсмэнамі.

Сяргею каля 25 гадоў. Па словах жыхароў вёскі, дзе нарадзіўся Чыж-старэйшы, Сяргей атрымаў адукацыю ў Англіі.

Тым часам чарговы сход акцыянераў Мінскага завода пеністых він аў падсумаваў вынікі паспяховага года. Будзе выплачана па 7672 рублі дывідэндаў на кожную акцыю. У дадатак намінальны кошт акцыі павялічваны амаль на 40%, са 171 000 да 238 000 рублёў. Зрэшты, калі б гэтыя грошы ляжалі на дэпазіце ў банку, а не былі патрачаныя на набыццё акцый, можна было б атрымаць большы прыбытак.

**ЯМ**

**Спадчына**

Беларускія мільянеры неахвотна перадаюць сваю справу маладым дзецям. Можна ўзгадаць хіба што ўласніка сталічных рынкаў Юрыя Авяр'янава. Адной дачцэ ён даверыў продаж адзення на сваім аўтарынку, а другой — кантроль за рэстаранамі і начнымі клубамі.

## Кіпр забірае дзесяціну ад кожнага дэпазіту

Грошы нацыяналізуюць, **каб краіна не скацілася ў прорву**.

Краіна ў Міжземным моры моцна церпіць ад крызісу. Еўрасаюз пагадзіўся выдзеліць Кіпру дапамогу памерам 10 мільярдаў еўра, але не проста так. У адказ улады краіны абавязаліся адскубці долю ад кожнага ўкладу, які знаходзіцца ў банках вострава. Засталося атрымаць дазвол ад парламента.

З кожнага дэпазіту, які перавышае 100 тысяч еўра, будзе забрана 9,9%, а з меншых — па 6,75%. Норма закране ўсіх: і буйныя карпарацыі, і дробных укладчыкаў. Фармальна гэта будзе называцца не нацыяналізацыяй, а абменам — укладчыкам нібыта дадуць узамен патрохі акцый банка. Рашэнне патрэбнае, бо інакш краіна скоціцца ў даўгавую прорву і ад дэпазітаў можа не застацца нічога. Чым гэта ўдарыць па Беларусі? Кіпр з'яўляецца адным з найбуйнейшых афшораў свету, праз яго ў нашу краіну льецца стабільная грашовая плынь. Напрыклад, летась рэзідэнты Кіпра ўклалі ў Беларусь $915 мільёнаў інвестыцый. Больш прыйшло толькі з Расіі і Вялікабрытаніі. Цяпер у беларускіх інвестараў грошай паменее.

**ЯМ**

### Сціссла

**Дэнамінацыя — гэта нястрашна**

Ужо ў наступным годзе ў Беларусі могуць з'явіцца новыя грошы, без лішніх нулёў. Гэта адбудзецца, калі сёлета інфляцыя не выйдзе за рамкі запланаваных 12%. Калі дэнамінацыю ўсё ж правядзіць, то мэтазгодна адкідваць адразу два нулі. Тады найменшай стане банкнота 1 рубель. Гэта цяперашнія 100 рублёў. Дэнамінацыя не робіць беларусаў ні бяднейшымі, ні багацейшымі — гэта тэхнічная аперацыя.

**Арэнда для прадпрымальнікаў падаражэе на 60%**

Ад пачатку красавіка базавая арэндная плата за памяшканні, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, складзе 86 000 рублёў замест цяперашніх 54 000 рублёў. Новая лічба нібыта вызначаная ў залежнасці ад інфляцыі за 2012 год, але тая склала 22%, а не 60%. Прадпрымальнікі незадаволеныя рашэннем і патрабуюць яго перагляду.

**Кватэра ў Смалявічах будзе даражэйшая, чым у Мінску**

«Чакаць, што жыллё ў гарадах-спадарожніках будзе таннейшым, чым у Мінску, пакуль не варта», — заявіў старшыня камітэта архітэктуры і будаўніцтва Мінгарвыканкама Аляксандр Пятроў. Для таго каб правядзіць у горадзе-спадарожніку маштабнае будаўніцтва, патрабуецца правядзенне асобных камунікацый. Пры ўзвядзенні камерцыйнага жылля гэтыя выдаткі лягуць на людзей.

**ЯМ**

# БНР: трэба было менш сварыцца

Працяг са старонкі 1.

Складанымі былі і ўнутрыпалітычныя абставіны. «Я б вылучыла два неспрыяльныя ўнутраныя фактары, — кажа даследчыца. — Першы — гэта бежанства. Вялізная колькасць людзей, якія перад вайной насялялі беларускія тэрыторыі, былі з набліжэннем фронту Першай сусветнай пераселеныя ў цэнтральныя расійскія губерні. Яны не маглі браць удзелу ў падзеях 1917—1918 гадоў, калі крышталізавалася беларуская дзяржаўніцкая ідэя. І ў іх свядомасці па вяртанні з бежанства ў пачатку 1920-х не было ўяўлення пра БНР.

## Нацыянальная бяда — няўменне дамовіцца

Другім фактарам, які трагічна паўплываў на лёс БНР, было тое, што яе заснавальнікі не змаглі стварыць праграму, прывабную для ўсёй тагачаснай беларускай супольнасці. А беларусы не былі адзінай этнічнай групай на тэрыторыі БНР, — падкрэслівае Дарота Міхалюк. — Былі палякі, габрэі...

Нават у Радзе БНР некаторыя былі супраць ідэі беларускай незалежнасці. У Літве, Латвіі стварэнне сваёй дзяржавы ўспрымалі больш аднадушна.

Літоўцы, латышы здолелі ўзняцца над другаснымі спрэчкамі дзеля ідэі незалежнасці. У Беларусі ж некалькі партый не змаглі выкшталтаваць супольную праграму дзейнасці. Магчыма, справа была ў нявер'і ў поспех у тых цяжкіх умовах. Гэта выклікала абвінавачанні і канфлікты, узаемны недавер».

Недахоп салідарнасці, нецярпімасць многіх беларускіх дзеячаў адзін да аднаго даследчыца лічыць адной з галоўных прычынаў слабасці БНР: «Асабістая непрыязь перашкаджала супольнай працы на карысць незалежнасці. Яскравыя прыклады Варонка і Скірмунт, потым Варонка і Луцкевіч, Луцкевіч і Ластоўскі. Каб не ўзаемнае нецярпенне, колькі б яны маглі зрабіць разам! Нават калі не дзяржава, нават калі не незалежнасць — можна было б, салідарызаваўшыся, болей выйграць, мець мацнейшыя пазіцыі ў будучыні. Калі Заходняя Беларусь была ў складзе Польшчы, можна было б мець большы поспех у пытаннях асветы, культуры».

## Радзе скардзіліся

Ці гатовае было грамадства тагачаснай Беларусі прыняць уладу БНР? Пра гэта найлепей засведчыў бы рэферэндум, праведзены на беларускіх землях, ці выбары, кажа гісторык. Але такое не было магчыма. «Ускосна пра думку насельніцтва могуць сведчыць матэрыялы архіваў БНР. У іх знаходзім мноства лістоў, просьбаў, звернутых да Рады пасля абвяшчэння БНР. Людзі скардзіліся, напрыклад, на нямецкія вайсковыя рэквізіцыі. Або звярталіся па пасведчанні аб пражыванні на тэрыторыі Беларусі, каб атрымаць ад нямецкіх уладаў згоду на перамяшчэнне. Захаваліся і лісты людзей, якія хацелі вырабіць сабе пашпарты БНР. Гэта можна лічыць у нечым недасканалым, але пацверджаннем таго, што звесткі пра БНР паступова шырыліся сярод насельніцтва».



Карта БНР, 1918.



Але ў вялікай меры БНР заставалася больш ідэяй, чым рэальным дзяржаўным утварэннем, лічыць Дарота Міхалюк: «Стваральнікі БНР засноўвалі міністэрствы, камісарыяты, надавалі паўнамоцтвы ў час, калі не быў дасягнуты кантроль урада над тэрыторыяй дзяржавы, не было свайго войска...»

Спробы стварыць уласныя вайсковыя фармацыі, без якіх у тыя грозныя часы не магло ісці гаворкі пра дзяржаву, былі. Аднак на тэрыторыі Беларусі ўвесь час знаходзілася чужое войска — нямецкае, бальшавіцкае, польскае, літоўскае... Усе гэтыя войскі мабілізавалі беларусаў пад чужую каманду.

Дзве самыя яскравыя спробы сфармаваць уласныя беларускія збройныя сілы прыпадаюць на 1920-ы — гэта Слуцкі збройны чын і Палескі паход Булак-Балаховіча. І там, і там уздымаліся сцягі БНР, аднак надзеі на прызнанне ў той час ужо не было: Беларусь стаяла на парозе Рыжскага падзелу.

## Ці хтосьці з суседзяў прызнаў БНР?

Манаграфія Дароты Міхалюк змяшчае грунтоўны картаграфічны дадатак, знойдзены ў кіеўскіх архівах. «Мапы парадкуюць разуменне, — кажа яна. — У дакументах Украінскай Народнай Рэспублікі мне ўдалося знайсці мапы беларуска-ўкраінскай мяжы, якую спрабавалі дэмаркаваць у 1918-м. Пра гэтыя перамовы я чытала ў дакументах БНР. Цікава, што экспертам беларускага боку ў гэтым пытанні быў гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі, які лічыў самай натуральнай мяжой між дзвюма дзяржавамі паўднёвую мяжу Вялікага Княства Літоўскага ў XVIII ст. Першая на яго ўклад у фармаванне канцэпцыі межаў Беларусі звярнула ўвагу гісторык з Гомеля Валянціна Лебедзева».

Перамовы вяліся, быў грашовы крэдыт ад гетмана Скарападскага, але ці прызнала УНР незалежнасць Беларусі? «Адзінай краінай, якая ў разгледжаны мной перыяд безумоўна прызнала БНР — як падаецца, — была Фінляндыя... Увогуле, якім крытэрыям мусіць адпавядаць дзяржава, каб быць прызнанай? Прашу памятаць, што гэта быў пачатак XX стагоддзя, нацыянальных дзяржаў у Еўропе было яшчэ няшмат. — кажа Дарота Міхалюк. — Агульных стандартаў у 1918-м яшчэ не існавала. Стандарты былі зацверджаныя «Канвенцыяй аб правах і дзяржавах 1933 года», прынятай у Монтэвідэа. Гэта кантроль над тэрыторыяй, наяўнасць войска, падтрымка насельніцтва, наяўнасць урада...»

Беларуска-ўкраінская мяжа, дарэчы, не ратыфікаваная дагэтуль.

## «Ад Луцкевіча чакалі іншага»

Урады за два гады змяніліся аж чатыры. Які з іх дабіўся найбольшага поспеху? «Усе яны дзейнічалі ў розных умовах, іх цяжка параўноўваць, — кажа даследчыца. — Мне імпануе Рада Язэпа Варонкі. Яна здолела рэалізаваць многія ініцыятывы, пачынаючы ад самога абвяшчэння незалежнасці, арганізацыі ўрада ва ўмовах акупацыі. Бо нямецкая адміністрацыя ўспрымала Раду не як палітычную арганізацыю, а як народнае прадстаўніцтва. Дазволена была толькі культурна-асветная дзейнасць. Але і тут Варонка многага здолеў дасягнуць.

Добра да працы на міжнародным форуме быў падрыхтаваны Раман Скірмунт: выкшталцоны, ведаў мовы, палітычна дасведчаны (быў дэпутатам Думы і добра сябе зарэкамендаваў), з еўрапейскімі сувязямі — Антон Луцкевіч шмат у чым яму саступаў. Але абшарнік Скірмунт не меў падтрымкі ў левага крыла беларускага руху, якое вінаваціла яго ў прапольскай, пранямецкай арыентацыі, як і ў тым, што не даў рады абавязкам прэм'ера».

Апошняя Рада, Луцкевічава, адзначае Дарота Міхалюк, дзейнічала ў зусім іншых палітычных абставінах. Варонка мог працаваць у Беларусі, Луцкевіч — не, тэрыторыя была занятая бальшавікамі, а потым і польскімі аддзеламі.

«Луцкевіч — таямнічая асоба, — кажа яна. — Не да канца зразумелая. Дзівіць яго пазіцыя, выказаная ў мемарыяле, звернутым да Парыжскай мірнай канферэнцыі ў студзені 1919-га. У той час, як урады Літвы, Польшчы ў такіх дакументах шмат увагі надавалі эканамічным аспектам дзейнасці сваіх дзяржаў, палітыцы адносінаў з суседзямі, Луцкевіч сцвярджаў само права беларусаў на незалежнасць. Пісаў больш пра гістарычную традыцыю дзяржаўнасці, чым пра тое, як яго сённяшняя беларуская дзяржава мае функцыянаваць. Ад прадстаўнікоў новых краін чакалі іншага. Хоць беларусам ясна далі зразумець у Парыжы, што спадзявацца ім няма на што.

Цікава таксама было пабачыць беларускія дакументы, перакладзеныя на англійскую мову: у іх Беларусь называецца White Russia. Гэта выклікала цэлую дыскусію: англічане палічылі, што гэта расейскія белагвардзейцы дайшлі аж да Вільні... Веданне пра Беларусь у Заходняй Еўропе было слабае».

## Ніводная з расійскіх сілаў не хацела беларускай незалежнасці

У часе Парыжскай канферэнцыі група беларускіх эсэраў, не паведаміўшы Луцкевічу, склала дамову пра супрацу з бальшавіцкай Расіяй. На што разлічвалі Бадунова, Мамонька і іншыя, ідучы на супрацу з бальшавікамі? «Бальшавіцкая праграма сацыяльнага ўладкавання дзяржавы часткова адпавядала іх поглядам. Таксама былі кар'ерныя памкненні — заняць месца ва ўрадзе будучай дзяржавы, створанай з дапамогай бальшавікоў. І такая, як вядома, паўстала ў 1919 у Смаленску. Бальшавікі таксама ўмелі выкарыстаць велічэзную непрыхільнасць беларускіх эсэраў да Польшчы.

Бальшавікі, дарэчы, насуперак сваім заявам, зусім не падтрымлівалі памкненне суседніх народаў да стварэння нацыянальных дзяржаў. Дый ніводная з расійскіх палітычных сілаў не ўяўляла сабе асобнага існавання Украіны і Беларусі, — кажа даследчыца. — З вялікай незадаволенасцю яны назіралі за палітычным развіццём беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў. Аднак нельга было ўжо ігнараваць абвяшчэнне незалежнасці БНР і УНР. Выдадзеныя ў 2005 у Мінску дакументы «1 января 1919 года» вельмі цікава паказваюць прычыны паўставання БССР».

## Фактар Пілсудскага

Была яшчэ адна ідэя ўпарадкавання Беларусі — польская. Яе выказаў Юзаф Пілсудскі. Яна была праявай досыць папулярнага ў тагачаснай Польшчы мыслення, што Беларусь — гэта Усходняя Беларусь, а Віленшчына і Гродзеншчына — тэрыторыі, якія на ўмовах інкарпарацыі або федэрацыі бачыліся ў складзе Польскай дзяржавы. Луцкевіч не мог на такое пагадзіцца. «Трагедыя БНР у тым, што беларуская тэрыторыя ў той час была аб'ектам палітычнай гульні суседзяў — Польшчы, Літвы, Савецкай Расіі, а ідэя беларускай незалежнасці не мела міжнароднай падтрымкі з боку дзяржаваў Антанты», — кажа Дарота Міхалюк.

У выніку Заходняя Беларусь на міжваеннае дваццацігоддзе апынулася ў польскіх руках. Але Усходняя, пры большым шанцаванні, магла б застацца хоць напалову незалежнай, ствараць дзяржаўныя інстытуцыі, замацоўваць у жыхароў усведамленне ўласнай дзяржаўнасці. Магчыма, працэс бы пайшоў працэс аднаўлення дзяржавы ў 1990-я? «Які сэнс гадаць пра тое, што магло б быць? Сапраўдная гісторыя настолькі захапляльная, што ніякія прыдумкі не ідуць з ёй у параўнанне», — кажа даследчыца.

**Сяргей Мікулевіч**

**Дарота Міхалюк**
гісторык, доктар габілітаваны, працуе ва Універсітэце Мікалая Каперніка ў Торуні (Польшча).

Адзінай краінай, якая фактычна прызнала БНР у 1918—1920, была Фінляндыя. Грузія, Азербайджан, Рэспубліка Дон і Латвія заключылі з БНР палітычны саюз. Латвія, Германія, Літва, Эстонія, Чэхія пагадзіліся прыняць прадстаўніцтвы БНР. Гетман Украіны Скарападскі даў БНР крэдыт і вусна дэкляраваў прызнанне, аднак ніякімі дакументамі гэта не было пацверджана.

# БАТЭ заваяваў Суперкубак


GOALS.BY

Суперкубак разыгрываюць між сабой пераможца чэмпіянату і Кубка краіны. Сёлета сустрэліся БАТЭ і «Нафтан». Навапалачане на працягу ўсёй гульні адбіваліся, а пры выпадку востра джалілі ў атацы. Да серыі пасляматчавых пенальці не дацягнулі ўсяго дзве хвіліны. Міхаіл Сівакоў **(на фота)** прынёс барысаўцам мінімальную перамогу — 1:0.

Таксама ў выхадныя вызначыліся паўфіналісты Кубка. Імі сталі сталічнае «Дынама» (па пенальці адужалі «Шахцёр»), жодзінскае «Тарпеда», «Мінск». Але найбольшую сенсацыю стварылі гульцы СКВІЧ. Клуб з першай лігі абыграў брэсцкае «Дынама». Усе матчы згулялі ў манежы.

А 30 сакавіка стартуе чэмпіянат. Гуляць давядзецца ўжо на траве.

ЗП

# БТ: У ЗША дзеці ядуць пацукоў

На мінулым тыдні хітом сусветнага інтэрнэту стаў сюжэт паўночнакарэйскага тэлеканала, дзе паведамлялася, што КНДР аказвае гуманітарную дапамогу ЗША. У Беларусі ёсць дастойныя канкурэнты карэйскім калегам. Адыёзны вядучы Яўген Новікаў у перадачы «Правы чалавека», напрыклад, заявіў такое:

«Нядаўна ў ЗША адзначаныя факты, калі дзеці на вячэру ядуць пацукоў. Так-так, вы пачулі правільна — пацукоў. Маецца на ўвазе не сырых, а злоўленых, апрацаваных, а потым іх вараць-смажаць. Вось да якога ўзроўню абвалілася жыццё ў ЗША і на Захадзе. А мільярды даляраў ідуць на войны. Паведамляецца, што ў Лас-Вегасе ёсць каварня, дзе супрацоўнікі раздаюць вечарамі дзецям кетчуп, каб дзеці маглі банальна паесці таматны суп. Чытаць і глядзець такое без дрыжыкаў немагчыма. Які жорсткі свет на Захадзе. І яны нам крычаць пра дыктатуру, нячэсныя выбары. Калі вам не падабаецца ў нас, то едзьце ў ЗША, паспрабуйце там пацукоў на смак».




Прычым гучала гэта на фоне трагічнай музыкі і з надрывам у голасе. Яўген Новікаў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета 12 склікання. І тады ён актыўна выступаў супраць прэзідэнцкай формы кіравання краінай. Быў заснавальнікам Беларускай Лігі правоў чалавека, якая атрымлівала падтрымку ў Еўракамісіі. Цяпер вядзе перадачу на БТ, дзе асуджае заходнія парадкі і ўсхваляе беларускія.

Вядома, што такія словы спадара Новікава не маглі быць незаўважанымі. Блогеры адрэагавалі на гэта са смехам: фотажабамі і карыкатурамі.

ЗП

Фотафакт


БЕЛАПАН

17 сакавіка ў цэнтры Мінска, ад плошчы Перамогі да Кастрычніцкай плошчы, адбыўся касцюмаваны міні-парад у гонар Дня святога Патрыка — нацыянальнага ірландскага свята.

## Еўрапарламент не стаў забараняць порна ў інтэрнэце

За забарону порна прагаласавалі 158 чалавек, а **супраць — 368.**

Дэпутаты Еўрапарламента на пасяджэнні ў Страсбургу большасцю галасоў адмовіліся прыняць рэзалюцыю, якая заклікае забараніць парнаграфію ў еўрапейскім сегменце інтэрнэту.

Дакументам прапаноўвалася таксама ўвесці кантроль і рэгуляваць публікацыю ў еўрапейскіх СМІ фатаграфій голых або напаўголых прадстаўніц прыгожага полу, каб пазбегнуць таго, каб «жанчына выкарыстоўвалася ў камерцыйных мэтах».

Сямён Цыбульскі


Камертон Сяргея Ваганава

# Школьны дыктат

Прачытаў у мінулым нумары «НН» сумны аповед маладога настаўніка гісторыі «Два гады — і я валю». Узгадалася, як аднойчы стаў міжвольным сведкам маленькай драмы знаёмай сям'і.

На той момант над школай навісла пагроза чарговага рэфармавання. У самы разгар абмеркавання праблемы — «а калі адзінаццаць?.. а калі дванаццаць?» — празвінеў званок. Да тэлефона жвавенька падбегла дачка. Мусіць, чакала... Але голас яе адразу набыў стрыманы сум: «Так... так... прабачце... забылася... заўтра ж данясу... да пабачэння...» — «Ну, вось, — паклала слухаўку, — яшчэ дзве тысячы, на «Юный спасатель»... — «А вы адмоўцеся», — параіў я...

Тата з мамай моўчкі ўтаропіліся ў мяне — мо яшчэ што параіш? У вачах дачкі набрыняла сляза...

Пра школьныя паборы чулася тады з усіх бакоў. Але ў той сям'і і ягоныя адносінах са школай існавала істотная дэталь: класная, чый званок так патрапіў «у тэму», ужо паспела адпомсціць — уляпіла «тройку» за беларускі дыктант, з-за чаго за год выходзіла «сямёрка». «І гэта дзяўчынцы, — са скрухай усклікнула мама, — якая бліскуча ведае і беларускую, і рускую, і англійскую мовы, польскую вывучае!» Такое вось наступства адмовы ад школьных абедаў... «Можаш не есці, толькі данясі грошы, — ледзь не плачучы прасіла класная, — бо мяне пазбавяць прэміі...»

Бедныя дзеці, бедныя настаўнікі...

Я не ведаю, пра што гаворым мы, калі гаворым пра школу.

Я не ведаю, што мы час ад часу з ліхаманкавай экспрэсіўнасцю нібыта абмяркоўваем. Рэфармацыю?

Але **такую** школу нельга рэфармаваць. **Такую** школу трэба толькі зачыніць. З-за незаменнай школы, што прычыняе грамадству **такая** школа, год ад года рэпрадукуючы хлусаў і прыстасаванцаў, распаўсюджваючы пошасць канфармізму, страху і крывадушша. Альбо, калі сям'я заклала ў нашчадка супраціў хлусні і дыктату, школа рыхтуе яму незайздросную долю «белай вароны», «пудзіла»...

Нават 10-бальная сістэма адзнак, і тая вучыць крывадушнічаць: «сямёрка» — гэта «чацвёрка з мінусам», а не «тройка з плюсам»...

Праграмы... падручнікі... методыкі... Усё гэта, безумоўна, важна для адукаванасці грамадства, ягонага самаадчування ў XXI стагоддзі. Але куды больш важны маральны выбар. Самаадчуванне грамадства вызначаецца менавіта ім.

Пра тое, якое гэта самаадчуванне насамрэч, можна меркаваць, калі ўявіць сабе настаўніка, што перад такім маральным выбарам аказаўся. «Два гады — і валю» — не самы цяжкі. А калі жыццё?

Калі жыццё — гэта выбар паміж жыццём і смерцю. Бо пайсці з прафесіі, якой прысвяціў жыццё, усё роўна што памерці. Асабліва калі гэты сыход абумоўлены знявагай тваёй прафесійнай і чалавечай годнасці.

А што гэта — годнасць настаўніка? Гэта найвышэйшая справядлівасць у адносінах да сваіх вучняў.

Ці не перад такім выбарам апынулася ў свой час Вольга Сянькова, дырэктарка салігорскай школы, калі чыноўнікі ад адукацыі выключылі са школы актывіста «Маладога фронту» Івана Шылу, ды яшчэ напярэдадні апошняга выпускнога іспыту? Не ведаю яе далейшага лёсу, але тады, пратэстуючы, яна пакінула і пасаду, і школу. Між тым прыклад не будзе поўным, калі не сказаць аб астатніх настаўніках: ледзь акрыяўшы ў сваёй падтрымцы дырэктаркі, яны хутка змоўклі і прагаласавалі «за» выключэнне аднаго з найлепшых вучняў. Такая вось дэмакратыя па-чыноўніцку — выключэнне шляхам галасавання...

## Ясі не ясі, а грошы данясі

Кожны чалавек, не толькі настаўнік, робіць у сваім жыцці, і не аднойчы, маральны выбар. Але ў тым, што тычыцца школы, падобны выбар вызначае жыццё пакаленняў і будучыню краіны. Вось чаму, выбіраючы сістэму адукацыі, немагчыма ігнараваць маральнасць, найперш праз сапраўдную дэмакратычнасць. Бо дэмакратыя — гэта яшчэ і маральнасць у суадносінах паміж грамадствам і дзяржавай. Безумоўна, у спалучэнні з законам.

А што ў нас? У лепшым выпадку — псеўдадыскусіі ў рэжыме дыктата.

І каго мы чуем у гэтых псеўдадыскусіях акрамя чыноўнікаў ад адукацыі? Мо ведаем, што думаюць аб ёй бліскучыя педагогі, маральныя аўтарытэты, высокія інтэлектуалы? Мо чытаем іх кнігі, артыкулы, чуем іх у адкрытых дэбатах? Усё, што можна назіраць — гэта перацягванне каната рознымі чыноўніцкімі кланамі: адзінаццацігодка-дванаццацігодка...

Па-руску кажучы: одиннадцатиКлетка, двенадцатиКлетка... Ёсць розніца?

Як ніякая іншая дзяржаўная інстытуцыя сучасная беларуская школа ўяўляе сабой злепак з улады, з яе аўтарытарнай канструкцыі, стылю паводзін, інтэлектуальнага ўзроўню і манер. Нездарма абвешчана арыентацыя на ўсярэднены, прабачце, узровень сярэдняй адукацыі, што, безумоўна, адбіваецца на адукацыі вышэйшай.

А там, дзе няма найвышэйшай адукацыі, гэтага падмурка прафесійнай і чалавечай годнасці, угнойваецца і пашыраецца прастора для «жэстачайшых мер»...

# І снег і грэх

**15 сакавіка на Беларусь абрынуўся снегапад, роўнага якому не было ў гісторыі.**

«Да Беларусі набліжаецца актыўны цыкланічны віхор, якому нямецкія метэаролагі далі мужчынскае імя «Хавер», што рэзка пагоршыць умовы надвор'я ў нашай краіне. Ён спрычыніцца да цэлага набору небяспечных і неспрыяльных зімовых з'яў надвор'я», — такое паведамленне перад 15 сакавіка распаўсюдзіў Гідраметэацэнтр краіны.

Ну, завіруха, ну, снег, падумаеш. Беларусы не звярнулі ніякай увагі на папярэджанні сіноптыкаў. Многія не сталі перастрахоўвацца, а селі ў машыны і звыкла накіраваліся па сваіх справах. Тым болей, што пятніца. Шмат хто ехаў на выходныя з гарадоў ці наадварот. Калі б людзі ведалі, што здарыцца, то сотню разоў падумалі б.


Людзі адзін за адным ідуць па вузкай сцежцы дадому, Каменная Горка.

**Чарговы раз улады дзейнічаюць па прынцыпе: толькі без панікі »**

### Закрытыя выезды

А 13-й гадзіне ўжо стала зразумела, што завіруха сапраўды анамальная і хутка яна не скончыцца. Супрацоўнікі ДАІ вырашылі абмежаваць рух на трасах, але дапамагала мала. Гэта быў першы выпадак у гісторыі, калі для бяспекі людзей прыйшлося закрыць выезды з Мінска. Інакш людзі проста траплялі б у снежную пастку. За суткі ў краіне было зафіксавана больш за 650 аўтамабільных аварый — тры чалавекі загінулі.

Часам бачнасць падала да 50 метраў. Дарогі не паспявалі расчышчаць. На трасах утварыліся гіганцкія (па 50 кіламетраў) заторы. Сотні машын заселі ў заносах на суткі. Трагічнасць сітуацыі заключалася ў тым, што людзі заставаліся на марозе без ежы і пітва. Напрыклад, 28 гадзін у аўтобусе правялі футбалісты «Гомеля», што ехалі на гульню Кубка краіны.

### Залатыя людзі

Сярод такіх гаротнікаў аказаўся вядомы расійскі акцёр Іван Ахлабысцін. Ён ляцеў з Масквы ў Мінск на творчы выступ, але самалёт пасадзілі ў Гомелі. Ахлабысцін сеў у машыну і накіраваўся ў сталіцу. У заторы пад Мар'інай Горкай ён правёў усю ноч. «Залатыя людзі сустрэліся на начной дарозе. Хоць і не сумняваўся. Шанцуе мне на залатых людзей. Беларусі [Ахлабысцін піша менавіта Беларусі, а не Белоруссії — «НН»] ёсць чым ганарыцца, нягледзячы на свінскае стаўленне яе начальства да ўласных землякоў», — напісаў у Твітары акцёр.

**Ахлабысцін са снежнага палону: Беларусі ёсць чым ганарыцца, нягледзячы на свінскае стаўленне яе начальства да ўласных землякоў »**



Магілёўская шаша ад станцыі метро «Магілёўская» ў бок Шабаноў.

**28 гадзін**
у снегавым палоне ў аўтобусе правялі футбалісты «Гомеля», што ехалі на гульню Кубка краіны.

У Мінску было не лепш. Метро, хай і з перабоямі, спраўлялася з патокам пасажыраў. А вось наземны транспарт на многіх маршрутах спыніўся. Доўгая дарога дадому была для жыхароў аддаленых мікрараёнаў. Людзі былі вымушаныя гадзінамі прабірацца праз снег «гуськом» па ўтаптанай сцяжыне.

### Боязь ініцыятывы

Сапраўды, параліч улады ў крытычнай сітуацыі быў відавочны не толькі «доктару Быкаву». Выглядала, што праз адсутнасць у краіне Лукашэнкі (ён быў у Санкт-Пецярбурзе) астатнія чыноўнікі не рызыкавалі брацца на сябе ініцыятыву. А раптам цябе ж пасля абвінавацяць, што ты паніку развёў?

Недастатковую працу па інфармаванні грамадзян правялі дзяржаўныя тэлеканалы і радыё. Выглядала, да вечара яны чакалі, што «абыдзецца».

Па-другое, прa снежны шторм было вядома даўно. Задні розумам ясна, што ў такое надвор'е нельга было пускаць па трасах фуры. Праз іх і ўтварылася большасць затораў.

Па-трэцяе, не былі падрыхтаваныя пункты абагрэву. У еўрапейскіх краінах перад такімі снежнымі бурамі іх звычайна робяць у школах ці дамах культуры. Не было выразных папярэджанняў на радыё пра тое, якія канкрэтна небяспекі чакаюць. Абстрактнае ж «штармавое папярэджанне» многія людзі прапусцілі міма вушэй, бо найчасцей яно не нясе небяспекі.

### Выдатная праца МНС

Выратавальнікі з МНС працавалі як маглі. Прэтэнзій да іх быць не можа. Але маштабы былі такімі, што пры ўсім жаданні дапамагчы ўсім, каму патрабавалася дапамога, было немагчыма. У гэткай сітуацыі беларусы ў чарговы раз прадэманстравалі вялізную салідарнасць і самаарганізаванасць.

У сацыяльных сетках адразу з'явіліся абвесткі пра пошук джыпераў, якія б дапамагалі небаракам на кальцавой ці ў іншых даступных месцах. Людзі на аўтамабілях падбіралі і падвозілі мінакоў задарма.

А на наступны дзень жыхары двароў самастойна (нагадванне Лукашэнкі прыйшло ўжо пазней) выйшлі расчышчаць тэрыторыю ад снегу. Фактычна, беларусы ў час шторму паказалі свае найлепшыя якасці.

**Зміцер Панкавец**

---

**Як змагаюцца са снегам у свеце: «У дні снегападаў усеагульная мабілізацыя»**

**Японія**

Спачатку ў снежную тоўшчу ўгрызаецца машына са свердлам. А ўжо потым едуць снегамёты, якія адкідваюць снег убакі. У выніку атрымліваюцца снежныя калідоры: дарога чыстая, а вакол высозныя белыя сцены.

**Ісландыя**

Ад тэрмальных крыніц па гарадах і вёсках разыходзяцца трубы, што дастаўляюць гарачую ваду па хатах. Яны праведзены пад дарогамі. Дзякуючы гэтым трубам і тае снег на вуліцах.

**Фінляндыя**

У гэтай краіне ў надзвычайныя снегапады дзейнічае ўсеагульная мабілізацыя. Людзям выдаюць абсталяванне, каб яны ачысцілі вызначаныя тэрыторыі. Дарогі фіны пасыпаюць гранітнай крошкай. Пасля зграбаюць астаткі снегу з крошкай самазваламі і скідваюць у мора. Крошка экалагічна бясшкодная.

---

## Сведчанні відавочцаў

Толькі што пешшу праз увесь Пінск. Гэта — жах. Аўтобусы стаяць складзеныя амаль папярок вуліц. І снегаачышчальнікі таксама застраглі... Апошнія метры — амаль паўзком... З працы адпусцілі ў 15.00 увесь горад. Мяце...

**Райцэнтр**

Паездка па маршруце Гікалы—Адоеўскага—МКАД—Уручча заняла троху болей за 5 гадзін. Куча аварыяў, буксуючыя і заглохлыя машыны. Прыборачную тэхніку бачыў толькі адзін раз, астатняе — гераічныя дворнікі. На МКАДзе — адна каляіна і ніфіга не відаць.

**Дзяніс Мельянцоў**

У Лунінцы мяце ўжо 17 гадзін. З моцным ветрам. І канца-краю не відаць.

Сапраўды — Армагедон!

**Аляксандр**

Паўднёвы Захад поўнасцю паралізаваны. Тралейбусы стаяць, камунальнай тэхнікі не назіраецца.

**Андрэй Мінскі**

З Сухарава ў Малінаўку пешшу скрозь жудасную завею. Не я адзіны! Натоўпы людзей у безвыходным становішчы.

**Гэны**

Вось толькі не трэба гэтага енку пра камунальнікаў. Усе ж добра разумеюць, што становішча надзвычайнае, лепей дапамагаць адзін аднаму.

**Andrejka**

Глянула ў акно: усе суседзі дружна працуюць на раскопках ). Засылаю мужа на падмогу.

**Валерыя**

А ў нас на двор нашай пяціпавярхоўкі выйшлі мужчыны з усіх пад'ездаў і за якую гадзіну расчысцілі усё. Прыемна было глядзець. Сын зайшоў дамоў са словамі: «Гэта было някепска!»

**Аляксандра**

Памахаўшы пару гадзін шуфлем на свежым паветры, атрымаў такое задавальненне! Зноўку сіла ў руках адчуваецца! Адпачыў гэтак жа, як калі дровы ў вёсцы калю.

**Во як!**

**З каментаў да артыкулаў «Грамадзяне! Далучайцеся да расчысткі двароў і дарожак, падбірайце людзей на прыпынках!» і «Шторм: выезды з Мінска заблакаваны, аварыі, заторы на трасах — анлайн, фоты» на сайце nn.by**

# Пакуль жонка была ў бальніцы, забілі яе мужа і спалілі жытло

25 сакавіка ў пары чакалася **трэцяя гадавіна вяселля**.

«12 сакавіка каля 3.00 беспрацоўны мясцовы жыхар, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап’янення, падчас сваркі на глебе непрыязных адносінаў нанёс не менш за дваццаць удараў нажом па розных частках цела, ад якіх пацярпелы на месцы памёр, пасля чаго падпаліў дом і збег». Сухая міліцэйская зводка. А за будзённасцю следчых — трагедыя маладой сям’і.

Загінулы — 26-гадовы жыхар Вілейкі Аляксандр. За некалькі дзён да трагедыі ён адвёз жонку з маленькім сынам у бальніцу. Калі яны вярнуліся, ні мужа, ні таты, ні дома — засталіся адны і без нічога.

«Я сябраваў з Сашам. Ягоная жонка Марына — моцны чалавек, не падае выгляду, як ёй цяжка, хаця мо душа і крычыць, — расказаў сябра сям’і Аляксей. — У тую ноч, а 5 раніцы, Саша павінен быў ехаць у Бараўляны забіраць Марыну з сынам — 2-гадоваму Андрэю зрабілі аперацыю. Сын і ў дзень пахавання ляжаў з тэмпературай у дзядулі з бабуляй — не ўзялі на развітанне з татам».


Паўдома, дзе жыла сям’я Аляксандра, цалкам згарэла.


Двухгадовы Андрэй застаўся без таты.

Аляксандра знайшлі мёртвым на падлозе выратавальнікі. Калі яны прыехалі па выкліку суседзяў, што пабачылі задымленасць, палова дома ўжо палала. З другой часткі з атручваннем дымам вынеслі пенсіянерку — жывую.

Палову дома яшчэ бацькі Аляксандра купілі пад лецішча, хоць ён і знаходзіцца ў цэнтры Вілейкі. А калі ў Сашы і Марыны нарадзіўся сын, то маладыя пераехалі туды жыць. 25 сакавіка ў іх мусіла быць чарговая гадавіна вяселля — 3 гады.

«Людзей на пахаванні было шмат: не ўсе нават маглі падысці да труны — стаялі на ўваходзе на могілкі... Калі затрымалі падазраваных, яны ва ўсім прызналіся. Мэта нібыта была ясная — забіць, абрабаваць, спаліць. Ён забіваў, а яна падпальвала», — расказвае Аляксей. Ён пачуў такую версію ад міліцыянтаў. У Следчым камітэце ж пакуль скупа паведамляюць, што затрыманых двое — мужчына і жанчына. Але Вілейка — горад невялікі, і мясцовыя ведаюць, каго затрымалі. Павел і Наста — муж і жонка. Яму — 35, ёй — 24. Наркаманы.

Абмяркоўваюць і розныя версіі таго, што адбылося. Адна з іх — Саша напярэдадні прагаварыўся дзесьці, што мае грошы. «У яго былі вялікія грошы, але не на руках, а перадаў сябру. І ён не з тых, хто выхваляўся б гэтым. Ён машыны з-за мяжы ганяў. Можа нешта прадчуваў ці пасварыўся тады з кімсьці, што грошы — 17000 даляраў — дома не пакінуў. Ён атрымаў замову і мусіў праз некалькі дзён ехаць у Літву па аўто», — расказаў Аляксей.

Сябра сям’і не ўяўляе, чаму менавіта да Сашы прыйшла тая пара. Кажа, што не ведае нават агульных знаёмых паміж імі. «Ён жыў нядрэнна — свой дом, на «БМВ-7» ездзіў, сябры былі ўплывовыя... Не стаў бы і кантактаваць з наркаманамі».

Крымінальную справу завялі па факце забойства з асаблівай жорсткасцю. Калі дакажуць віну затрыманых, ім пагражае пакаранне ад васьмі гадоў турмы ажно да расстрэлу.

**Кастусь Матушыч**

Падобны выпадак адбыўся 7 сакавіка ў Стaрадарожскім раёне. 62-гадовы пенсіянер выпіваў дома ў вёсцы Новы Рабак з 23-гадовым маладзёнам. Узнікла сварка, і хлопец забіў дзеда: кіем прабіў грудзіну і пашкодзіў лёгкія. А каб схаваць забойства, падпаліў дом. Падазраванага затрымалі.

## Вышук



Фрунзенскае РУУС Мінска шукае мужчыну, які збіў свайго **нападніка (на фота)**. Здарэнне адбылося каля 0.30 8 сакавіка на прыпынку грамадскага транспарту «Мікрараён «Сухарава-6» (вул. Сухараўская, 65). Міліцыя шукае таксама сведкаў канфлікту. Тэлефанаваць на: (044) 751-09-98, (044) 755-08-62.



38-гадовы **Андрэй Сяменчык** раніцай 7 сакавіка выйшаў у краму на вуліцы Бельскага, 48 у Мінску. Вярнуўся дадому ён толькі ўвечары і моцна збітым. «Хуткую дапамогу» не выклікаў. А на наступны дзень памёр.

Фрунзенскае РУУС Мінска шукае людзей, хто ведае пра акалічнасці збіцця. Тэлефанаваць на: (044) 751-09-98, (044) 755-08-62.



Лідскі РАУС шукае **Чэлека Леаніда Канстанцінавіча**, які пражываў у Лідзе. 8 лістапада 2012 ён выехаў на заробкі ў Расію. З таго часу родныя не атрымлівалі ад яго вестак. Прыкметы: на выгляд 53—55 гадоў, рост каля 175 см, валасы сівыя, носіць вусы.

Каму вядома месцазнаходжанне зніклага, тэлефанаваць на (0154) 52-02-02.

## Міліцыянт у Мазыры быў змушаны страляць у хуліганаў

Сведка: іншага **выйсця не было.**


У першыя хвіліны пасля здарэння: адзін з параненых ляжыць у крыві.

Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да чатырох жыхароў Мазыра. Старэйшаму — 30 гадоў, маладзейшаму — 21. 17 сакавіка яны, паводле следчых, пачалі хуліганіць і нецэнзурна лаяцца каля рэстарана «Элада». Каб уціхамірыць маладых людзей, выклікалі нарад міліцыі: прыехалі два чалавекі. Але на заўвагі нецвярозыя хлопцы адрэагавалі агрэсіўна: захацелі падужацца з міліцыянтамі.

Старшага прапаршчыка стукнулі разбітай пляшкай па галаве. Ягоны напарнік, малодшы сяржант, расцаніў такую сітуацыю як пагрозу жыццю, свайму і калегі. На папярэджанне аб выкарыстанні зброі хлопцы не адрэагавалі. Таму ён зрабіў папераджальны стрэл у паветра, а потым яшчэ тры прыцэльныя па нагах.

Адзін са сведкаў здарэння паведаміў, што ў гэтай сітуацыі, на яго думку, у міліцыянтаў не было іншага выйсця. Цяпер праводзіцца праверка, па выніках якой ацэняць правамернасць прымянення табельнай зброі.

**СП, СМ**

## Сціісла

### Засіліўся былы чыноўнік

У Гомелі знайшлі павешаным былога намеснік мэра горада Анатоля Чысціка. Асноўная версія — самагубства. Чысцік прыйшоў на працу ў гарвыканкам пасля скандалу ў будаўнічай галіне, калі завялі крымінальную справу на супрацоўнікаў упраўлення камунальнага будаўніцтва. Ён заспеў на пасадзе мэра Віктара Піліпца, якога пазней арыштавалі. У адсутнасць кіраўніка горада выконваў яго абавязкі. Але перад самагубствам звольніўся.

### Падлетка асудзілі за вымагальніцтва

Не дзеля патрэбы, а для дэманстрацыі сілы 16-гадовы ліцэіст з Рэчыцы паўгода вымагаў грошы ў малодшага за сябе школьніка. Спачатку патрабаваў плаціць за тое, што не будзе біць хлопца. А пазней шантажаваў, што раскажа ўсё бацькам, у якіх школьнік краў грошы. Агулам за паўгода той так нацягаў свайму крыўдзіцелю 15 млн рублёў. Суд прыгаварыў ліцэіста да трох гадоў турмы з адтэрміноўкай на такі ж тэрмін. А ягоным бацькам давядзецца вярнуць усю суму.

### З кішэні скралі 53 мільёны рублёў

Сям’я мінчукоў знайшла альтэрнатыву банкам: свае немалыя зберажэнні яны схавалі ў кішэні курткі на лецішчы ў Маладзечанскім раёне. Меркавалі, што злачынцы, калі і залезуць у дом, не пакваляцца на няновую адзежу. Але прагадалі. Апошні раз грошы яны пералічылі 9 студзеня, а 15 лютага іх ужо не было.

### Салдат забіў пенсіянерку

Свой прыезд з войска ў адпачынак 20-гадовы салдат вырашыў адзначыць застоллем у роднай вёсцы на Гродзеншчыне. А пасля выпітага, калі ўсе пакладліся спаць, выйшаў на двор. Там пачаў біць шыбу ў доме суседкі. Калі гаспадыня выйшла паглядзець, у чым справа, ударыў яе ў твар і металічнай трубой праламаў галаву. Цела пенсіянеркі пакінуў у хляве, а сам пайшоў спаць. Пасля затрымання ён не здолеў патлумачыць свой учынак.

### Асудзілі закрытым судом

Былога начальніка сакратарыята савета рэспублікі Глеба Бядрыцкага асудзілі на восем гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці. Ён падазраваўся ў крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі і ў злоўжыванні службовым становішчам. Паколькі суд праходзіў у закрытым рэжыме, няясна, за што канкрэтна яго пасадзілі.

**КМ**

# Што такое касмічнае смецце?

Дробныя прадметы, што запаўняюць калязямную арбіту, могуць стаць прычынай трагедыі. Піша астраном **Віктар Малышчыц**.


Карта касмічнага смецця ў наваколлі Зямлі.

У апошні час часта даводзіцца чуць пра розныя небяспекі, якія ўтойвае ў сабе космас: то на нас можа ўпасці гіганцкі метэарыт, то Зямля збіраецца наляцець на нейкую нябесную вось, то злыя іншапланецяне ўжо расстаўляюць свае сеткі... Канечне, да такіх навінаў можна ставіцца з іроніяй: калі б хоць частка ўсіх апакаліптычных прароцтваў збылася, нашай планеты папросту ўжо не існавала б.

Але мы часам не задумваемся, што сёння чарговую касмічную небяспеку могуць стварыць не прыродныя стыхіі, а... мы самі. Гаворка пойдзе пра рукатворнае касмічнае смецце.

### Гібель Аляксея Аляксеевіча

У маі 1960 на калязямную арбіту адправіўся савецкі спадарожнік «Спутник-4». Тагачасная прэса дакладвала аб нябачаных поспехах у касмічнай галіне: акрамя навуковага абсталявання, спадарожнік быў першым у серыі апаратаў, распрацаваных для палёту чалавека ў космас. На яго борце знаходзілася герметычная кабіна з «Аляксеем Аляксеевічам Мандэльштамам», манекенам касманаўта, які паўтараў не толькі габарыты чалавечага цела, але нават і яго ўнутраную будову.

Пасля чатырох дзён палёту спускаемы модуль аддзяліўся ад асноўнай часткі спадарожніка і яго рухавікі сталі тармазіць, каб пачаць спуск у атмасферы. Інжынерам не цярпелася праверыць працаздольнасць сістэмы вяртання на Зямлю, а таксама даведацца аб уплыве на чалавечы арганізм магутных перагрузак, якімі суправаджаецца любы спуск у атмасферы. Але з-за паломкі датчыка рухавікі спусканага модуля выдалі зусім не той імпульс, які быў патрэбны для бяспечнага вяртання, і наадварот закінулі карабель на больш высокую арбіту.

Нават на такой вялізнай вышыні яшчэ можна знайсці слабыя сляды зямной атмасферы. Таму на працягу двух наступных гадоў «Аляксей Аляксеевіч» слаба тармазіў у разрэджаным паветры і спускаўся ўсё ніжэй і ніжэй, пакуль 5 верасня 1962 не ўвайшоў у шчыльныя слаі атмасферы.


Кадр з мультфільма «Валл-і».

Праз пару хвілін разбуральнага палёту парэшткі звышсакрэтнага спадарожніка на велізарнай хуткасці «прызямліліся» пасярод галоўнай вуліцы амерыканскага горада Мэнітэвак у штаце Вісконсін. Гэта быў адзін з першых інцыдэнтаў, звязаных з касмічным смеццем.


Бывае, што падае і такое...


Рэшткі расійскай станцыі «Мір» згараюць у зямной атмасферы.

### Што лятае над намі?

Старыя зламаныя спадарожнікі, шрубы, гайкі, інструмент, згубленыя касманаўтамі, ступені ракет і шмат чаго іншага — гэта і ёсць касмічнае смецце, якое працягвае накопліваецца на калязямной арбіце. На першых пілатуемых касмічных караблях смецце і прадукты жыццядзейнасці проста выкідаліся ў касмічную прастору. Усё гэта заставалася на арбіце, уяўляючы сабой немалую небяспеку для іншых касмічных місій. Таму пазней любыя кантэйнеры, якія выкідваліся з караблёў, пачалі накіроўваць у зямную атмасферу, дзе яны маглі б згарэць.

Немалую колькасць касмічнага смецця стварылі ЗША і СССР падчас гульняў у «касмічныя войны»: ад 1968 да 1986 гады гэтыя краіны расстралялі на арбіце не менш за 20 спадарожнікаў. Часта такія выпрабаванні прыкрываліся неабходнасцю знішчыць непрацоўныя спадарожнікі, што могуць упасці нам на галаву, але на самой справе з'яўляліся выпрабаваннем касмічнай зброі: ракет, якія маглі б знішчаць варожыя спадарожнікі ў выпадку неабходнасці. Пасля таго як ракета трапляе ў спадарожнік, навокал разлятаюцца тысячы абломкаў, большасць з якіх згарае ў атмасферы, але частка застаецца на арбіце доўгі час. Дарэчы, амерыканцы паўтарылі такое выпрабаванне ў 2008 годзе, знішчыўшы на арбіце непрацуючы спадарожнік-шпіён.

### Чым гэта нам пагражае?

Як мы ўжо ўзгадалі, нават на вышыні ў сотні кіламетраў яшчэ ёсць слабыя сляды зямной атмасферы. Таму любы спадарожнік з цягам часу пачынае тармазіцца і можа ўпасці на Зямлю. Каб гэтага пазбегнуць, час ад часу трэба ўключаць спецыяльныя рухавікі, якія «падымаюць» спадарожнік вышэй. Але калі раптам здарыцца збой і касмічная станцыя перастала адказваць на сігналы з Зямлі, то застанецца толькі чакаць таго дня, калі ўся гэтая груда металу ўпадзе дзе-небудзь на нашыя галовы. І добра, калі на борце не будзе яшчэ і маленькага ядзернага рэактара...

Таму інжынеры і імкнуцца ў выпадку выяўлення крытычных няспраўнасцяў як мага хутчэй «спісаць» спадарожнік і спецыяльна кіраваць яго ў зямную атмасферу па рaзлічанай траекторыі, каб ён змог упасці дзе-небудзь у мора, а не над Еўропай. Напрыклад, такім чынам Расія пазбавілася ад касмічнай станцыі «Мір». Дарэчы, для такіх падзенняў з неба ў Ціхім Акіяне вызначане спецыяльнае месца, далёкае ад паселішчаў людзей і закрытае для караблёў.

Але і дробныя прадметы, што запаўняюць калязямную арбіту, могуць стаць прычынай трагедыі. Справа ў тым, што хуткасці, з якімі рухаюцца спадарожнікі, складаюць некалькі кіламетраў у секунду, а самі траекторыі могуць перасякацца пад рознымі вугламі. І таму сутыкненне касмічнага карабля, напрыклад, з гайкай на такой хуткасці будзе нашмат больш разбуральным, чым стрэл з пісталета па яго абшыўцы.

**Цікавыя факты**

- Першая і адзіная задакументаваная ахвяра касмічнага смецця — аўстралійская карова, якую забіла кавалкам упаўшай амерыканскай станцыі «Скайлэб».
- У верасні 2002 астраномамі быў адкрыты незвычайны аб'ект, які рухаўся да Зямлі з боку Месяца. Можа гэта доўгачаканы візіт іншапланецян? Не, дэталёвы разлік арбіты паказаў, што гэта ступень «Апалона-12», пакінутая яшчэ ў 1969.
- Лідар па засмечванні калязямной прасторы — Расія. За ёй ідуць ЗША і Кітай.
- Разбураюцца ў космасе не толькі зямныя спадарожнікі, але і каметы. Калі Зямля сутыкаецца з роем такіх часцінак, мы назіраем з'яву метэорнага дажджу.

З Зямлі можна адсочваць перамяшчэнне ў космасе прадметаў памерам больш за 10 сантыметраў. І на сённяшні дзень каля Зямлі пастаянна лятае больш за 20 тысяч такіх небяспечных аб'ектаў. А колькасць драбнейшых часцінак смецця дык і ўвогуле лічыцца мільёнамі. Нават калі ўлічыць маштабы касмічнай прасторы, сутыкненне з касмічным хламам ужо не падаецца малаверагодным. Напрыклад, у 2009 амерыканскі спадарожнік сувязі Iridium сутыкнуўся з савецкім «Космасам-2251», які даўно выпрацаваў свой рэсурс. Вынік — мора абломкаў, якія з вялізнай хуткасцю разляцеліся ва ўсе бакі.

### Змрочныя перспектывы касманаўтыкі

Самы страшны сон для касмічных спецыялістаў — «сіндром Кеслера», які прадказаў у 1978 годзе спецыяліст НАСА Дональд Кеслер. Згодна з яго ідэяй, у пэўны момант колькасць касмічнага смецця на арбіце можа дасягнуць такой велічыні, што пачнуцца першыя сутыкненні. У выніку кожнай аварыі будуць утварацца тысячы аскепкаў, якія будуць сутыкацца з іншымі спадарожнікамі, утвараючы яшчэ тысячы кавалачкаў. У выніку вакол Зямлі ўзнікне смеццевая абалонка, праз якую будзе немагчыма праляцець — на гэтым выкарыстанне касмічнай прасторы закончыцца на сотню-другую год, пакуль большая частка смецця не згарыць у атмасферы Зямлі. Напэўна, штосьці падобнае ўжо намалявалі мастакі ў мультфільме «Валл-і», дзе касмічны карабель папросту прабівае слой старых спадарожнікаў на шляху да зорак.

Цікава, што знішчыць ці сабраць касмічнае смецце амаль немагчыма. Ні сучасныя баявыя лазеры, ні спадарожнікі з сеткамі-пасткамі, ні іншыя амбіцыйныя праекты пакуль не знайшлі падтрымкі ў інжынераў. І адзіны варыянт выратавання нашай планеты — гэта прымаўка «чыста там, дзе не смецяць». Будзем спадзявацца, што ў бліжэйшай будучыні чалавецтва зможа прыкласці ўсе магчымыя сілы для таго, каб не дапусціць далейшага забруджвання космасу. Узамен за гэта мы атрымаем магчымасць асвойваць яго і бачыць нашу Блакітную планету з самага прыгожага ракурсу.

# Мая Камароўка

Успаміны пра Мінск 1950-х.
Піша **Браніслаў Сармонт**.



**Так выглядала яшчэ ў 1950-я вуліца Стара-Камароўская, што на месцы цяперашняга паліграфкамбіната за плошчай Якуба Коласа.**

Вёска Камароўка ўзнікла на бойкім месцы, дзе разыходзіліся шляхі на Полацк, Віцебск і Смаленск. Да яе з аднаго боку падступаў лес, з другога насядала балота з адвечным хорам галасістых жаб ды хмарамі камароў, ад чаго і пайшла назва паселішча. «Гэтая мясціна ўяўляе сабой ліпкае суцэльнае балота, — пісала ў 1899 газета «Минский листок». — Перайсці праз яго ніяк немагчыма... Вуліцы тут не распланаваны, пасля дажджу ператвараюцца ў непралазную гразь, а ў некаторых месцах яна не высыхае цэлымі гадамі».

Камароўскі лес належаў Ваньковічу. Гэты маляўнічы сасновы бор, дзе размяшчаліся шматлікія лецішчы, быў любімым месцам адпачынку мінчукоў. Але ў 1898 яго ўладальнік высек тую частку лесу, што была бліжэй да горада. Больш дальнія ўчасткі захаваліся (зараз гэта парк Чалюскінцаў). У 1906 там знаходзілася эсэраўская база падрыхтоўкі тэрарыстаў. Там жа адпрацоўваўся замах на Сталыпіна, забойства екацярынаслаўскага губернатара Жаўтаноўскага, абрабаванне казначэйства на Фанарным завулку Пецярбурга.

У студзені 1907 на Камароўцы быў заснаваны лесапільны завод (цяпер «Белвар»), вакол якога вырас пасёлак. Назвы вуліц Берасцянская, Дрэваапрацоўчая (бульвар Мулявіна), Бондараўская (Гікала), Падлесная (Броўкі), Лясная, Сасновы завулак сведчылі аб сваім дачыненні. У дваццатыя гады з атрыманнем статуса сталіцы (першай сталіцай БССР быў абвешчаны старажытны беларускі Смаленск, які дэкрэтам Леніна з 1918 быў перададзены Расіі, пра што цяпер расейскія імперскія колы старанна маўчаць, хаця пякуцца аб вяртанні Крыма), Мінск стаў інтэнсіўна развівацца, расці. Расла і Камароўка.

Тутэйшы лесапільны завод таксама пашыраўся, каб забяспечыць гарадское будаўніцтва матэрыяламі, сталяркай, мэбляй. Бліжэй да завода на вуліцах Цнянскай — Беламорскай пабудавалі завадскі пасёлак. У канцы 1930-х лесапілку перапрафілявалі ў радыёзавод імя Молатава. Для рабочых і спецыялістаў пабудавалі новы пасёлак Пушкінскі (раён вуліцы Чорнага). На другіх ускраінах узніклі аналагічныя пасёлкі: Уборкі — чыгуначнікаў (раён вуліц Талстога—Артылерыстаў), Грушаўка — вагонарамонтнікаў, Камінтэрн — станкабудаўнікоў і кандытараў (раён вуліц Батарэйная—Магілёўская шаша (зараз Судмаліса—Партызанскі праспект). Вуліцы пасёлкаў брукавалі спецыяльна загартаванай цэглай, якую пастаўляў адзін з мінскіх цагельных заводаў.

Першы радыёпрыёмнік завода імя Молатава (1940) звоўся «Піянер». Пасля вайны тут пачалі выпускаць радыёлу «Мінск Р-7», «Беларусь», тэлевізары «Нёман» і «Зорка», хаця побач ужо набіраў моц малады канкурэнт, у далейшым знакаміты «Гарызонт». Заводу-ветэрану засталося наладзіць выпуск высакаякасных электравымяральных прыбораў, касмічнай прадукцыі, і атрымаў ён імя Леніна (1960). Працуючы на ваенна-прамысловы комплекс, завод квітнеў, забяспечваў сваіх работнікаў камфортным жыллём. Пабудаваў у Ждановічах шыкоўны прафілакторый, дзе адначасова маглі адпачыць сотні рабочых. У сасновым бары размяшчаўся піянерскі лагер — сапраўдны гарадок, з канцэртнай залай, стадыёнам, басейнам, саўнай.

Завод меў спартыўны клуб з выдатнай кагортай веласіпедыстаў суперкласа, якія

## Там, дзе стаіць салон мэблі, я ў 1945-м праваліўся ў багну

паспяхова ўдзельнічалі нават у міжнародных велатурах. Там жа, у спартклубе, пасля працы азартна «рэзаліся» аматары «е2-е4». Меў стадыён і футбольную каманду «Спадарожнік» — гонар завода, неаднаразовых чэмпіёнаў рэспублікі. Меў інтэрнаты і добры ўтульны клуб, з вядомымі далёка за межамі горада мастацкімі калектывамі, дзе заводскія артысты з задавальненнем бавілі вольны час і ўдасканальвалі сваё майстэрства. Я там працаваў з бігбэндам і памятаю, як у 1986 нас наведаў знакаміты англійскі джазавы трубач Кені Бол, які са сваім дыксілэндам гастраляваў па СССР. На пытанне карэспандэнта газеты Moskow news, што яго больш за ўсё ўразіла ў Савецкім Саюзе, Кені Бол адказаў наступнае: «О, гэта было ў Мінску, дзе я наведаў завадскі джаз-клуб. Зайшоў з цікаўнасці. Затым з мясцовымі джазмэнамі пачалі музыцыраваць (джэм-сэшн), ды так захапіўся, што гралі гадзіну, другую, трэцюю. Мне трэба было ад'язджаць, а мы ніяк не маглі наіграцца!»

А сёння ўсяго гэтага не стала. Завод завецца «Белвар» і выпускае невядома што. Ад безнадзеі распрадае карпусы, маёмасць — тым і корміцца. Сталыя дасведчаныя спецыялісты сыходзяць, а сучасную моладзь на завод не заваблішь. Гэта бяда і трагедыя ўсёй нашай гаспадаркі канца XX стагоддзя.

### Камароўскія вілы

У часы майго дзяцінства на Камароўскую плошчу веерападобна збягаліся вуліцы Савецкая, Чырвоная, Цнянская, Лагойскі тракт, Пушкіна, Бондараўская і Дрэваапрацоўчая. У народзе гэты пляц звоўся «Камароўскія вілы». Тут заўжды было людна (нявыпадкова яшчэ ў 1911-м менавіта над Камароўкай паказваў сваё майстэрства славуты расейскі авіятар Утачкін). На плошчы таўкліся людзі, звінелі трамваі, гулі аўто, па бруку грымелі фурманкі, цокалі капыты. Таўкліся тыя, хто прыехаў да базару ці ад'язджаў у барысаўска-лагойскім напрамку. Уся плошча была шчыльна застаўлена шапікамі, майстэрнямі, фотаатэлье, цырульнямі, закусачнымі («блакітнымі Дунаямі»), дзе заўжды можна было атрымаць дзяжурныя «сто грам і куфаль піва». Ад усходу да змяркання віравала Камароўка, і толькі ноч несла ёй кароткую перадышку. У начную прахалоду адчыняліся вокны, з утульных дворыкаў-садкоў даносіліся хрыплаватыя спевы патэфона, трапяткія гукі мандаліны, разлівы акардэона — адпачывала стомленая за дзень Камароўка.

Вуліца Харужай узнікла ў 1960-я якраз на месцы таго знакамітага балота, што некалі цягнулася аж да Кіеўскага сквера і плошчы Бангалор, побач з якой і цяпер месціцца наўковая Балотная станцыя (працуе з 1911 г.). На тым жа балоце ў 1944—1947 знаходзіўся канцлагер ваеннапалонных немцаў, што адбудоўвалі Мінск. Глядзячы сёння на гмахі жылых кварталаў, Паліграфкамбінат, будынак Камароўскага рынку, цяжка ўявіць, што тут калісьці было ні прайсці ні праехаць. У 1945-м, гуляючы з сябрамі прыкладна на тым месцы, дзе сёння па вуліцы Харужай стаіць салон мэблі, я праваліўся ў багну і мяне ледзь выратавалі дарослыя людзі.

### Мяч Якуба Коласа

Пры канцы саракавых асушыць Камароўскае балота ўзяліся меліяратары, і ў хуткім часе тут з'явіліся лапіны, дзе хлапчукі маглі ўволю паганяць мяч. У пасляваеннага маленства асаблівага выбару забаў не было, і мы ўсім сэрцам аддаліся басаногаму футболу. Гэта была не проста азартная гульня — гэта быў спосаб паказаць сябе, стаць аўтарытэтам вуліцы, прыцягнуць увагу дзяўчынак. Кожная вуліца, двор мелі сваю каманду, і нават ладзіліся турніры. Мячыкі латаныя-пералатаныя аберагаліся як рэліквіі, і гора было таму, хто не дагледзеў іх. Тады нічога іншага не заставалася, як ганяць якую-небудзь торбу, набітую саломай ці анучамі. Але ж хіба прынясе тое захапленне, тую асалоду ганяць нейкую торбу? А прасіць у бацькоў грошы на мячык ніхто не наважваўся: усе жылі бедна і цяжка, зараблялі мала, часам нават недаядалі. Некаторыя дзеці наогул засталіся без бацькі: хто загінуў на фронце, хто ў Гулагу. У калгасе працавалі як рабы, за міфічныя палачкі, і ў горадзе кожны рубель даваўся нялёгка, таму зберагаўся толькі на самае неабходнае.

Нам, хлапчукам-падлеткам, было далёка да праблем дарослых, мы ламалі галаву: дзе ўзяць мячык? Нехта прапанаваў: а што, калі звярнуцца да Якуба Коласа? Назаўтра ранічкай каманда хлапчукоў у пошуках свайго дзіцячага шчасця накіравалася



**Браніслаў Сармонт**

Кампазітар, джазавы музыка. Нар. у 1939 у Мінску. У 1959—1962 вучыўся ў кансерваторыі, быў выключаны «за дыскрэдытацыю звання савецкага студэнта». У 1959—1971 граў у джаз-бэндзе «Зялёныя агні». Да 1971 года працаваў у Белдзяржфілармоніі, пасля — у Мурманскай філармоніі. Ад 1982 — кіраўнік аркестра мінскага завода імя Леніна, пасля выкладчык музычнай вучэльні ў Мінску. Сябра Саюза кампазітараў Беларусі.

да Акадэміі навук, дзе жыў і працаваў беларускі пясняр. Пільнавалі яго на вуліцы. Чакаць давялося доўга. Мы амаль страцілі надзею, калі нарэшце ў канцы алеі паказаўся той, каго так доўга і ўпарта чакалі. Ішоў ён няспешна, з тоўстай ігрушавай палкай, у шыракаполым капелюшы. Да нас набліжалася сама эпоха, чалавек, якога мы ведалі па кніжках, фатаграфіях, вывучалі ў школе. Колькі цудоўных вершаў ён прысвяціў беларускім дзецям! Мы палюбілі іх і многія ведалі на памяць: «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому», «У Савосева суседа быў пярэсценькі каток», «Задумаў Міхаська рагатку набыць» і шмат іншых. І раптам сама жывая легенда перад намі! Хлопцы разгубіліся, а каб хоць неяк ўратаваць сітуацыю, я нечакана звонка прывітаўся:

— Дзень добры, дзядзька Якуб!

— Го, дзень добры, дзіцятка, дзень добры! Хадзь сюды, цукеркай пачастую, — і пачаў корпацца ў кішэні. — Ну, як справы?

— Справы нічога, толькі шкада, мячыка не стала.

— Мячыка не стала? А куды ж падзеўся ваш мячык?

Тут хлопцы апрытомнелі, абступілі нас і наперабой пачалі выказваць набалелае.

— Мячык зусім падраўся. А на новы грошай няма.

Канстанцін Міхайлавіч слухаў, затым хітравата усміхнуўся.

— Гм, грошай, кажаш, няма? А колькі каштуе той мячык?

— Трынаццаць рублёў дваццаць чатыры капейкі! — хорам выпалілі мы.

— Ого, аж трынаццаць рублёў! — Ён на хвілінку задумаўся. — Хто тут з вас старэйшы?

Наперад падаўся цыбаты Генька па мянушцы Шмусь. Канстанцін Міхайлавіч уважліва агледзеў хлопца, нібы вывучаючы, ці можна такому давяраць. Шмусь адразу зрабіўся не па-дзіцячаму сур'ёзным: Генька і сапраўды быў на нейкі тыдзень старэйшым за нас, а тут яшчэ такая важная роля, што нечакана выпала на яго долю, дый жах страціць апошнюю надзею ахапіў. У нейкі момант нават магло здацца, што яго кірпаты, аблезлы ад сонца і ветру твар і сапраўды пасталеў, але кароткія штанцы са шлейкамі ды збітыя калені выдавалі ў ім падлетка-гарэзу. Хлопцы прыціхлі, і толькі частае пасапванне ды вочы, у якіх адчайна свяцілася надзея, выдавалі хваляванне. Нарэшце дзядзька Якуб дастаў з кішэні кашалёк, адлічыў патрэбную суму і, звяртаючыся да ўсіх разам, з той жа хітраватай усмешкай дадаў:

— Толькі абавязкова пакажыце мне ваш мячык!

Мы сталі зачараваныя і баяліся паверыць. І раптам хлопцаў як прарвала: з дзіцячых сэрцаў вырвалася радаснае «ура!» Узрушаныя і шчаслівыя, мы кінуліся да трамвая і ў хуткім часе дружна абляпілі прылавак спартыўнай крамы «Дынама», дзе за шклом ляжалі такія прывабныя і жаданыя новенькія скураныя мячы.

Канстанцін Міхайлавіч адобрыў наш выбар. Ён нават з задавальненнем падфутболіў мячык, праўда, не вельмі лоўка, таму з жартам апраўдваўся: «Баюся сапсаваць яго, а то давядзецца другі шукаць».

Нехта з хлопцаў не стрымаўся:

— Не так трэба біць!

На што пачулася:

— Го, дык ты ж кожны дзень трэніруешся, а я ж дык першы раз!

### «Пашукай сабе, даражэнькі, іншую працу!»

З мячом дзядзькі Якуба мы не расставаліся. Кожны з нас тады марыў стаць Бабровым, Бескавым, Пайчадзе. А той, хто гуляў у варотах, безумоўна, быў Хомічам ці Акімавым. Усе яны — легенды пасляваеннага футбола.

Ганялі мячык мы азартна, да самых прыцемкаў. Ніякай тактыкі не трымаліся і бегалі за мячыкам усёй кучай. Таму цаніліся тыя, хто мог «вадзіцца», г.зн. валодаў дрыблінгам. Але самым шыкам, які выклікаў агульнае захапленне, лічылася трапіць мокрым брудным мячыкам у «морду» суперніку, а то і партнёру. У запале барацьбы часта ўзнікалі спрэчкі, бо ўтрымаць у памяці лік — скажам, 21:18 — і сапраўды няпроста. Судзіў нашы

## Муку ў крамах прадавалі перад святамі, па тры кіло ў рукі

баталіі старэйшы і аўтарытэтны сярод нас хлопец Казя. Рос ён без бацькі і працаваць пайшоў рана, з трынаццаці гадоў. Вучыўся на аўтаслесара, потым стаў шафёрам. Шафёр, відаць, з яго быў някепскі, Казя перамагаў у аўтагонках, меў за гэта кубкі, дыпломы. А ад 1953 пачаў вазіць самога Якуба Коласа, чым вельмі ганарыўся. Казя ездзіў тады на новенькім шыкоўным «ЗІМе» і даглядаў яго, як ляльку.

Аднойчы, расказваў Казя, ля будынка ЦК партыі (цяпер Адміністрацыя прэзідэнта) яму давялося доўга чакаць Канстанціна Міхайлавіча. Нарада зацягнулася далёка за поўнач, і Казя ў машыне задрамаў. Прачнуўся ад таго, што шэф штурхаў яго ў плячо: «Паехалі, паехалі. Ужо і так занадта позна!» Казя зухавата газануў і паімчаў па вуліцы Маркса паўз помнік з танкам уніз да парку Горкага. Але, відаць, спрасоння трапіў не на праезную частку, а на тратуар, які прыступкамі спускаўся да рэчкі. Машына раптам нырнула і пачала падскокваць на прыступках, пасажыр і вадзіцель таксама. Зразумеўшы сваю памылку, Казя экстрана тармазнуў. Ад нечаканасці пасажыр галавой бразнуўся ў ветравое шкло, ды так моцна, што ледзь не вылецеў разам з шыбай. Казя ў рэшце рэшт выраўняў машыну, але салідному «ЗІМу» больш нічога не заставалася, як з кожнай прыступкі казлом скакаць аж да самай Садовай (Купалы)... Паэт са стогнамі ўзлятаў, грукаючы галавой у столь. Нарэшце скончылася «радэа». Казя адчуў сябе нялоўка, што прынёс такія пакуты старому чалавеку, папрасіў прабачэння, але Канстанцін Міхайлавіч сурова маўчаў. І толькі выходзячы з машыны, на развітанне спакойным голасам сказаў: «Вось што, хлопец, ты добра ездзіш па лесвіцы, але пашукай сабе, даражэнькі, іншую працу!»

### Гумовыя боцікі на высокіх абцасах

Ад 1 студзеня 1948 улады адмянілі размеркавальную карткавую сістэму, а па-ранейшаму жылося цяжка. Літаральна за ўсім чэргі. Праўда, свабодна ў продажы былі крабы, чырвоная ды чорная ікра, толькі яны, чамусьці, не карысталіся асаблівым попытам — кожны марыў пра звычайную лусту хлеба. Муку ў крамах прадавалі толькі перад камуністычным святам, і не больш як па тры кіло ў «адны рукі». Тры кілаграмы на аднаго — ад свята да свята! А яшчэ не кожнаму пашанцуе, не кожнаму дастанецца. Таму чаргу даводзілася займаць загадзя, адзначацца ў спісах. Людзі моклі пад дажджом, мерзлі ў холад. У кіламетровых чэргах таўкліся па 4—6 гадзін, а то і больш. Школы ў такія дні, як правіла, пуставалі — большасць дзяцей са старымі стаяла ў чэргах па муку, таму што бацькоў за прагул на працы маглі ўпячы ў ГУЛаг. І такія чэргі існавалі амаль за кожным прадуктам ці таварам аж да 60-х гадоў.

Апраналіся вельмі сціпла, нават прымітыўна: пераважна ватоўка ці шынель, гумовыя, кірзавыя альбо брызентавыя боты. Хлопцы фарсілі ў шырачэзных штанахклёшах, у кепачцы «масквічкавасьміклінка» з брылем у два пальцы, з-пад якога выглядвала грыўка прычоскі бокс ці паўбокс. Амаль у кожнай хаце можна было бачыць на сцяне цыратовы дыван з аляпаватым малюнкам у стылі прымітывізму, на якім плавалі лебедзі ці якой-небудзь грудастай матроне галубкі неслі любоўнае пасланне. Шыкам гулагаўскаэзкаўскай моды лічылася залатая фікса (а праз ГУЛаг камуністы прагналі ўжо амаль палову даролслага насельніцтва краіны). Бадай, адзіная краіна ў свеце, дзе нават склаўся самастойны мастацкі жанр — «блатная песня», заснаваны на эзкаўскім фальклоры... Многія гадамі не маглі змяніць гімнасцёрку ці галіфэ, у якіх вярнуліся з фронту. Некаторыя ў тых жа галіфэ жаніліся, скончалі інстытут. Большасць жанчын выходзіла ў «свет» у ватоўках, абшытых чорным плюшам, і бліскучых гумовых боціках на высокіх абцасах — піск колішняй моды! І нават гэткі «саўковы Кардэн» не кожнаму быў па кішэні. Дзеці даношвалі бацькоўскае і, як толькі сыходзіў снег, бегалі па вуліцы босымі аж да самых замаразкаў. Часта прапускалі заняткі ў школе, многім не было нават у чым выйсці, бацькі зараблялі мала, бо ўсе сродкі Сталін кінуў на мілітарызацыю краіны, на стварэнне атамнай бомбы. Таму мяне здзіўляе, калі сёння старыя людзі апантана носяць партрэты дыктатара, мітынгуюць і патрабуюць вярнуць парадкі тых часоў. Відаць, такая кароткая іх памяць, такое нежаданне ведаць праўду.

*Працяг будзе.*



«Камароўскія вілы», куды веерам збягаліся сем вуліц. Тут заўжды віраваў натоўп.

# Трохмясцовыя купэ ў цягніках: нязручна!

Лазіць на самую верхнюю паліцу — радасць для дзяцей, але **пакута для старэйшага пасажыра**.

Давялося праехаць у трохмясцовым купэ цягніка Мінск—Варшава. Новыя купэ мо і прыстасаваныя для начных цягнікоў унутры Еўрасаюза, але ствараюць страшную нязручнасць на лініі, дзе тры гадзіны займае мяжа і змена колаў. Вось якія вывады.

Па-першае, вагоны не абсталяваныя вакуумным туалетам. У выніку, з улікам доўгіх мытняў-межаў і змены колаў, у цягніку амаль заўжды замкнёныя прыбіральні. Страшная нязручнасць.

Па-другое, у старых купэ можна было і ўдзень прылегчы, і ўначы пасядзець. Калі ў новых трохмясцовых купэ прададзеныя тры месцы, то днём там прыйдзецца сядзець не прылегшы, а ўначы — ляжаць не прысеўшы. У старых купэ адлегласць між ніжняй і верхняй паліцамі такая, што можна спакойна сядзець, а ў новых — адлегласць між сярэдняй паліцай і ніжняй такая, што сядзець немагчыма. А лазіць на самую верхнюю паліцу — радасць для дзяцей, але пакута для старэйшага пасажыра.

Па-трэцяе, гукаізаляцыя вагона ніякая. Лежачы на верхняй паліцы, я міжволі ў драбніцах чуў размовы спадарожнікаў у суседніх купэ.

Па-чацвёртае, ацяпленне і кандыцыянаванне традыцыйна культаюць. Некамфортна.



Па-пятае, сам дызайн купэ неідэальны. Напрыклад, у старым вагоне люстэрка месцілася на дзвярах. А ў новым яно змешчана на ўнутранай панэлі шафкі над сталом. У выніку, галіцца даводзіцца навісаючы над столікам, што, мякка кажучы, нядобра. А каб пaглядзецца ў люстэрка здалёк, прыходзіцца ўціскацца ў шафку для вопраткі, бо інакш сябе не пабачыш.

Па-шостае, рундук для валізак вузкі, мала якая торба туды ўлезе. Таму чамаданы часцяком ляжаць проста пад нагамі.

Па-сёмае, столік малы, і пры ім можна сесці максімум дваім, тады як у старым купэ адразу чатыры асобы могуць адначасова піць чай ці гуляць у карты.

Нарэшце, беларускай мовы ў вагоне няма нідзе. Беларусы для Беларускай чыгункі, відаць, не існуюць.

Ёсць і плюсы, вядома. Напрыклад, з'явіліся разеткі. Паліцы ў трохмясцовых купэ шырэйшыя, чым ранейшыя — поўныя людзі гэта ацэняць. Аднак у цэлым — незалік. Можна зразумець Беларускую чыгунку: замены купэ старога тыпу на еўрапейскі ўзор запатрабавалі палякі, і беларусам заставалася «зляпіць, што было».

І пры гэтым цягнік не належыць да ліку танных: квіток на яго ў два бакі каштуе $180! Гэта амаль як танны білет на самалёт «Белавія»! Заплаціўшы такія грошы, пасажыр мае поўнае маральнае права патрабаваць належных умоваў перавозкі, прынамсі, магчымасці хадзіць у туалет.

**Мікола Бугай**

## Усё менш беларусак кормяць дзяцей цыцкай

Палова мацярок **не дакормлівае нават да паўгода**.

Белстат сумесна з UNICEF правёў даследаванні, датычныя стану жанчын і дзяцей у Беларусі. Адным з аб'ектаў даследавання стала распаўсюджанасць груднога гадавання. Вынікае, што вялікая доля жанчын у нашай краіне цяпер не корміць малых цыцкай.

Па выніках даследавання, пры нараджэнні карміць цыцкай пачынаюць 80% малых. У 6 месяцаў гэтая лічба зніжаецца да 50%. У год 28% дзяцей яшчэ бяруць цыцку, у 2 гады — 12%.

Аж палова мацярок не дакармлівае малых цыцкай нават да паўгода. Хоць у Беларусі жанчыны пасля нараджэння дзіцяці знаходзяцца ў дэкрэтным адпачынку, значыцца, фізічна знаходзяцца побач з дзіцём.




Працэнт маці, якія кормяць дзяцей цыцкай у залежнасці ад веку дзіцяці (па месяцах). Жоўты колер: толькі цыцка. Аранжавы колер: цыцка і вада. Зялёны: цыцка ды іншыя вадкасці. Блакітны: цыцка ды малочныя сумесі. Сіні: цыцка ды цвёрдыя стравы.

Гадаванне цыцкай і прасцейшае ў параўнанні са штучнымі малочнымі сумесямі, бо не патрабуе нейкіх адмысловых захадаў. У прынцыпе, у чалавека, як і ў іншых сысуноў, малака маці бывае досыць для нашчадкаў.

Такая нізкая лічба маці, якія даюць дзецям цыцку, можа тлумачыцца ці праблемамі са здароўем маці, ці перакрыўленымі сацыяльнымі стандартамі.

Груднoе гадаванне лічыцца вельмі карысным для дзяцей, бо спрыяе найлепшаму іх развіццю. Вялікая колькасць даследнікаў лічыць, што адмова ад груднога гадавання можа таксама мець адмоўныя наступствы для перспектыўнаў чалавецтва як біялагічнага віду.

**НБ**

**Транспарт**

## Пасажыры цягніка Вільня–Мінск будуць праходзіць мытню на вакзале

3 мая пускаюць **трэці цягнік**.

Пасажыры цягніка, які курсіруе паміж сталіцамі Літвы і Беларусі, будуць праходзіць памежна-мытныя працэдуры не на памежнай літоўскай станцыі Кяна, як цяпер, а на Віленскім чыгуначным вакзале.

Дзякуючы новаўвядзенню, час шляху скароціцца з трох да дзвюх з паловай гадзінаў. Новы парадак павінен пачаць дзейнічаць ужо ў маі. Тады ж замест двух на маршруце пачнуць курсіраваць тры цягнікі.

**БелТА**

## Прыватныя абвесткі

**АДДАМ**

**Аддам у добрыя рукі** працоўны манітор Samsung 753DF. Т.: (029) 874-47-84.

**ВІТАННІ**

**Віншую маіх настаўнікаў Лявона Баршчэўскага і Анатоля Сідарэвіча** з днём нараджэння. Жадаю Вам шчасця, здароўя і плённай працы на ніве беларушчыны. Усяслаў Шатэрнік.

**ЗДЫМУ**

**Здыму кватэру** ў Мінску. Т.: 670-15-05 (Андрэй).

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## ГАНДБОЛ

### СКА — «Крагуевац»

**22 і 23 сакавіка ў зале Рэспубліканскага цэнтра алімпійскага рэзерву (Філімонава, 55, корпус 2)** адбудуцца гульні чвэрцьфіналу Кубка выкліку. СКА (Мінск) прыме сербскі «Крагуевац». Пачатак гульняў а 18:30 і 16:00 адпаведна.

## МІНІ-ФУТБОЛ

### Беларусь — Казахстан

**Таварыская сустрэча пройдзе ў зале Рэспубліканскага цэнтра алімпійскага рэзерву.** 21 сакавіка. Пачатак а 20:30. Каманды рыхтуюцца да адбору на чэмпіянат Эўропы.

## ІМПРЭЗЫ

### Уручэнне прэміі «Дэбют»

**21 сакавіка ў галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** стануць вядомыя пераможцы прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча. Прэмія заснаваная Беларускім ПЭН-цэнтрам і Саюзам беларускіх пісьменнікаў і ўручаецца найлепшым аўтарам, якія выдалі першую кнігу. Віншаваць пераможцаў будуць Уладзімір Арлоў, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў, Андрэй Хадановіч, гурт «Рэха». Уваход вольны. Пачатак, а 19-й.

### Куфар_Пластылін

**З 25 па 30 сакавіка Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт** ў 2-гі раз праводзе Міжнародны тыдзень пластычных мастацтваў «Куфар_Пластылін». У праграме чакаюцца выставы фота і сцэнаграфіі, відэа-арт, інсталяцыі, стрыт-арт і інтэракцыі, арт-лекцыі, майстар-класы…

### Шэнгенка

**26 сакавіка а 19-й у галерэі «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а)** у межах фестываля перакладной літаратуры пройдзе літаратурная вечарына «Пражская вясна ў Мінску». Падчас яе адбудзецца прэзентацыя твораў чэшскай літаратуры ў якасных беларускіх перакладах.

## КАНЦЭРТЫ

### Палац

**21 сакавіка а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт фолк-гурту «Палац».

### Тройца

**21 сакавіка а 19-й у к/з «Мінск» (Малая сцэна)** — канцэрт этнатрыа «Тройца».

### Кліўленд Уоткінс

**26, 27 і 28 сакавіка ў Мінску а 19-й у «Джаз-клубе Яўгенія Уладзімірава» (Палац рэспублікі) і 29 сакавіка а 19-й у Палацы прафсаюзаў** — канцэрт Gentlemen Jazz джазавага вакаліста Кліўленда Уоткінса.

### Алег Міцяеў

**27 сакавіка а 19-й у к/з «Мінск»** — канцэрт Алега Міцяева.

### Фолк'н'Рол Вясна-2013

**29 сакавіка ў 18.30 у «Салтайме» (пр.Незалежнасці, 131/1)** — «Фолк'н'Рол Вясна-2013». Бяруць удзел гурты «Кашлаты Box» (Мінск), «Кліч» (Мінск), Omut (Драгічын—Мінск), Wartha (Мінск).

### Да 150-годдзя паўстання Каліноўскага

**29 сакавіка а 19-й у Малой зале імя Шырмы** — канцэрт ансамбля салістаў «Класік-Авангрexamples», прысвечаны 150-годдзю паўстання Кастуся Каліноўскага.

### Irish Party

**29 сакавіка а 19-й у клубе «Алекс'с» (Чарнышэўскага, 10а)** — канцэрт фолк-панк гурту Drunken Fairy Tales. Таксама возьмуць удзел «Бостанскае чаепіцце» (фолк-панк), Crow Dog Clan (Hillbilly), «Тлушч» (панк-рок) і MentalBait (psychobilly).

### Nazareth

**29 сакавіка а 19-й у Палацы рэспублікі** — канцэрт гурту Nazareth.

### Музычная табакерка

**27 сакавіка ў 19.30 у Тэатры оперы і балета** — праграма «Музычная табакерка». Прагучаць творы італьянскіх, рускіх і амерыканскіх кампазітараў, фрагменты з аперэт і мюзіклаў, песні з кінафільмаў.

## ВЫСТАВЫ

### Каардынаты жыцця

**Да 25 сакавіка ў гарадской мастацкай галерэі Леаніда Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава жывапісу і графікі Леаніда Шчамялёва «Каардынаты жыцця», прысвечаная 90-годдзю майстра.

### Гракі прыляцелі

**Да 25 сакавіка ў галерэі «Славутыя майстры» (Камунальная ўзбярэжная, 6б)** працуе выстава мастачкі Арыны Сямёнавай«Гракі прыляцелі». Яе гракі — гэта партрэты пасажыраў метро, лю-дзей на прыпынках, дзяцей, якія засумавалі на ўроках…

### Букет для Марыі

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава жывапісу Ларысы Зарубінай «Букет для Марыі». Экспануюцца жывапісныя кветкавыя кампазіцыі, нацюрморты.

### Дэканструкцыя

**Да 30 сакавіка ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава скульптуры і аб'ектаў славацкага мастака Марэка Рыбаня «Дэканструкцыя». Мастак актыўна працуе з дрэвам, стварае аб'екты і станковыя кампазіцыі.

### Жывыя мятлікі ў Гродне

**Да 31 сакавіка ў Гродзенскай выставачнай зале (Ажэшкі, 38)** працуе выстава жывых экзатычных матылькоў. Пра некаторых матылькоў існуюць паданні, жыццё іншых само падобнае да казкі…






**Вясельны салон**

**20—23 сакавіка ў выставачным цэнтры «Белэкспа» (Янкі Купалы, 27)** пройдзе выстава-кірмаш «Вясельны салон-2013».

## ТЭАТРЫ

### 21 сакавіка

**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Юнага гледача** — «Мой бедны Марат»

### 22 сакавіка

**Лялек** — «Дзяды»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Дажыць да прэм'еры»
**Юнага гледача** — «Міхалова зямля»

### 23 сакавіка

**Юнага гледача** — «Дарога на Віфлеем»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 24 сакавіка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Лялек** — «Шоўк»

### 25 сакавіка

**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Нью! Хэпі, Валентайн!»
**Купалаўскі** — «Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл»

### 26 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Лялек** — «Чароўныя падарункі»
**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 27 сакавіка

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Казка чароўнага лесу»
**Купалаўскі** — «Не мой»

### 28 сакавіка

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Лялек** — «Марынка-крапіўніца»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»

### 29 сакавіка

**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Юнага гледача** — «Вясёлы Роджар»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Лялек** — «Шоўк»

### 30 сакавіка

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Беларускай драматургіі** — «Дамавічкі»
**Оперы і балета** — «Шчаўкунок»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

## КІНО

### Сямейка Крудс

**Жанр:** сямейны мультфільм
**Рэжысёр:** Крыс Сандэрс, Кірк дэ Міка
**Акцёры:** Кларк Дзьюк, Раян Рэйнальдс, Нікалас Кейдж, Эма Стоўн, Кэтрын Кінэр
ЗША, 2013г., 98 хв.

Дзеянне мультфільма разгортваецца ў дагістарычныя часы. Кансерватыўны кіраўнік абшчыны, якога завуць Краг, пасля землятрусу, што знішчыў яго паселішча, вымушаны разам са сваёй сям'ёй пакінуць звыклае асяроддзе пражывання і паспрабаваць шчасця ў іншым месцы. У часе перасялення ён сутыкаецца з качэўнікам, падарожнікам з перадавымі поглядамі, які зачароўвае племя Крага (асабліва старэйшую дачку), але і сам Краг не мае намеру губляць аўтарытэт...






**Новы камандуючы ўнутранымі войскамі Юрый Караеў нячаста з’яўляецца ў публічнай прасторы. Прэс-канферэнцыя 13 сакавіка.**




**Больш за 15 тысяч чалавек прайшлі маўклівым шэсцем у дзясятую гадавіну забойства прэм’ер-міністра Сербіі Зорана Джынджыча. Джынджыч, першы дэмакратычна абраны прэм’ер-міністр посткамуністычнай Сербіі, быў застрэлены снайперам 12 сакавіка 2003.**




**Фанаты мінскага «Дынама» прызналі брамніка Аляксандра Суліму найлепшым гульцом каманды мінулага чэмпіянату. У падарунак Суліма атрымаў статуэтку, а таксама байку з Пагоняй.**



**Збіты беларускі самалёт валяецца на базары ў Самалі. Парэшткі беларускага Іл-76 пабачыў у Магадзіша расійскі блогер Ілля Варламаў.**

## Анекдоты і жарты

* * *

Калі выбіраюць Папу, дык глушаць сотавую сувязь у Сіксцінскай капэле. А калі выбіраюць Бацьку, глушаць не толькі інтэрнэт і сотавую сувязь, але і іх карыстальнікаў.

* * *

У сям’і чыноўнікаў бацька не змог сабраць патрэбны пакет дакументаў, каб паставіць сына ў кут.

* * *

— А мой партрэт будзе сапраўды выдатным?

— Вядома. Вы сябе нават не пазнаеце.

* * *

Вынікі тэсту на цяжарнасць паказалі, што будзе вясelle.

* * *

— Каханая, а давай зробім адно аднаму выдатныя выходныя?

— Ой! Вядома, каханы.

— Ну, тады да пабачэння да панядзелка.

* * *

Школьны выпускны з кожным годам становіцца ўсё больш падобным да Дня дэсантніка.

* * *

Мой муж сказаў, што ўначы зробіць усё, што я захачу... Хутчэй бы ноч — хачу паглядзець, як ён будзе клеіць шпалеры на кухні.

* * *

Не спаліш скуры, не аблезеш, да асфальту не прыліпнеш, не спацееш! Адзіны мінус —басаножкі на цёплыя шкарпэткі не лезуць...

* * *

Кашмар! У Еўропе, аказваецца, замест ялавічыны, народ еў каніну. Госпадзе, зрабі так, каб у нашай каўбасе, акрамя эмульсіі свіной скуркі, хоць нейкае мяса было!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вясна.** На Бярэзіне пайшлі ўжо параходы. У ваколіцах Бабруйска была бура з грымотамі. Пярун пабіў многа авечак; згарэла колькі сялянскіх будынін.

**«НН». №12. 1913.**

**На Дзень Волі** не чакаецца буйных акцый, але свята будзе адзначацца дзясяткамі імпрэзаў па ўсёй краіне. Найшырэй 25 Сакавіка адзначаць у сталіцы. Будуць таксама мерапрыемствы ў Гродне, Магілёве, Гомелі, Віцебску, Оршы, Маскве.

**«НН». №11. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8051. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.03.2013.
Замова № 1149.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12